20 лютага 2015 | № 7 (424)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Вяртанне паганцаў

стар. 11









# Зноў рабуюць!

**Прапановы кіраўніка дзяржавы могуць пазбавіць беларусаў апошняй кашулі**



Сяргей ПУЛЬША

Аляксандр Рыгоравіч урэшце заклапаціўся падатковай палітыкай, у якой чорт нагу зломіць. «Скарочана колькасць падаткаў, спрошчана адміністраванне, уведзена электроннае ўзаемадзеянне з плацельшчыкамі падаткаў. Быццам бы стала лепш, што пацвярджаецца міжнародным рэйтынгам. З іншага боку: часта нешта мяняць у падатках — можна ўпасці ў крайнасць і нанесці шкоду стабільнасці краіны», — сказаў Лукашэнка. Зыходзячы з гэтага ён заявіў пра недапушчальнасць частых зменаў падатковых ставак.

«Падаткаабкладанне павінна быць максімальна простым, зразумелым кожнаму і лагічным. Гэта пытанне, калі хочаце, не толькі эканамічнае, але і псіхалагічнае. Часам падатковае заканадаўства маленькую фірму прымушае трымаць бухгалтараў больш, чым штат самой фірмы. Гэта ненармальна», — сказаў кіраўнік Беларусі.

Беларуская сістэма падаткаабкладання нагадвае старую гісторыю пра тое, як пасярод крамы жанчына раптам закрычала: «Рабуюць!». Калі да яе падбеглі высветліць, што здарылася, яна адказала: «12% дзяржава бярэ з майго заробку ў падаходны падатак, 1% — у пенсійны фонд, 35% — у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. 20% — падатак на дададзеную вартасць. Калі ўлічыць сюды падакцызныя тавары, акцыз на бензін, «падатак на аўто» і гэтак далей, атрымліваецца, што 70–75% заробку ў мяне забірае дзяржава. Як я гэта асэнсавала, я не вытрымала».

Аналітычнае таварыства «Ліберальны клуб» у мінулым годзе распрацавала своеасаблівы рэйтынг: «Дзень, вольны ад падаткаў». То бок, палічыўшы нашыя падаткі, яны вызначылі дзень у годзе, у які грамадзянін Беларусі, аддаўшы ўвесь свой заробак, расплачваецца з падаткамі і пачынае працаваць на сябе. Гэтым днём у 2014-м выпала 7 чэрвеня. То бок на тое, каб расплаціцца з дзяржавай па ўсіх падатках, беларус працуе больш за 5 месяцаў, — а дакладней, 156 дзён. Калі ўлічыць, што яшчэ адзін месяц у годзе — гэта адпачынак, то беларус паўгады працуе на дзяржаву і паўгады — на сябе. Ці нармальна гэта?

Але «недапушчальнасць змены падатковых ставак» азначае, што палёгкаў у гэтай сітуацыі чакаць не варта.

Краіне вельмі патрэбныя грошы. І таму хтосьці пазбавіцца падатковых ільгот. Як зазначыў Лукашэнка на той жа нарадзе, больш няма магчымасці прадастаўляць ільготы ў ранейшых аб'ёмах, а таму яны будуць захаваныя толькі за прыярытэтнымі відамі дзейнасці. «Калі раней на пэўным этапе ў нас была магчымасць прадастаўляць падатковыя ільготы, цяпер іншыя часы. Ад індывідуальных ільгот трэба зыходзіць. Мы надавалі столькі ільгот, што цяпер самі з цяжкасцю можам разабрацца», — дадаў беларускі кіраўнік. Паводле яго, на сёння ў Беларусі дзейнічае амаль 250 відаў падатковых ільгот, з-за гэтага ў 2013 годзе бюджэт недалічыўся каля $1 мільярда.

Празрыстая сістэма падаткаабкладання, скарачэнне льготаў і роўныя ўмовы працы для ўсіх суб'ектаў гаспадаркі — гэта якраз тое, пра што яму даўно праядала мозг і апазіцыя, і прадстаўнікі малога бізнесу. Прынамсі, пра гэта ішла гаворка ў праграме «Мільён новых працоўных месцаў для Беларусі», якую распрацавала АГП яшчэ 5 гадоў таму. І, канешне, добра, што кіраўнік дзяржавы да гэтага дайшоў хаця б зараз. Але ці не запозна?




**Вышэй падаткі — ніжэй эканамічная актыўнасць**

2010-ы год, калі АГП прапаноўвала гэтыя захады, яшчэ можна было разглядаць праз прызму «скарачэння льготаў». Зараз сітуацыя зусім іншая. З таго часу мы перажылі тры дэвальвацыі і сусветны эканамічны крызіс. Сённяшні крызіс, які выкліканы «падзеннем Расіі», яшчэ не скончыўся. Падзенне коштаў на нафту адаб'ецца на нашых даходах ад продажу нафтапрадуктаў. Апроч таго, трэба аддаваць пазыкі, якія мы набралі ў «стабільныя» гады адноснага дабрабыту. Толькі ў гэтым годзе — $4 мільярды.

Між тым, ужо даўно даказана, што чым большыя падаткі, тым ніжэй эканамічная актыўнасць у рэгіёне. У часы крызісу падаткі і зборы трэба зніжаць. Тое ж тычыцца і льготаў — іх трэба ўводзіць, а не забіраць. Праўда, як зразумеў Аляксандра Лукашэнку эканаміст Барыс Жаліба, ягоная прапанова па скасаванні льготаў тычылася дзяржаўных прадпрыемстваў. «Мы таму і знаходзімся ў крызісе, што ў нас няроўныя ўмовы гаспадарання. Дзяржаўныя прадпрыемствы знаходзяцца ў больш прывілеяваных умовах, чым прыватны бізнес. Гэта і льготныя крэдыты, і «падатковыя канікулы», і рэгулярнае спісанне пазыкаў, і вызваленне некаторых прадпрыемстваў ад выплаты пошлінаў... Прыватнаму ж сектару ніякіх паслабленняў ніколі не было. А таму дзяржпрадпрыемствы ператварыліся ў лайдакоў: яны не скіраваныя на павышэнне эфектыўнасці працы, на выпуск сучаснай прадукцыі, а толькі чакаюць, што ім будуць спісаныя старыя пазыкі і нададзеныя новыя прэферэнцыі», — адзначае Жаліба.

Па ягоных словах, такіх варта было б пазбавіць ільготаў. «Але я баюся, што размовы пра роўныя ўмовы гаспадаркі ўсё роўна застануцца размовамі», — кажа эканаміст.

Дарэчы, на наступны ж дзень пасля нарады ў Лукашэнкі Савет Міністраў прыняў пастанову, па якой некаторыя прадпрыемствы пазбаўляюцца дзяржпадтрымкі. Але гэтая пастанова — увага! — тычыцца малога і сярэдняга бізнесу.

І чаму я не здзіўлены?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. Мікалаю Дзядку пагражае новы тэрмін

**Суд над Мікалаем Дзядком адбудзецца 25 лютага на тэрыторыі турмы №4 у Магілёве.**

Суд будзе праходзіць у закрытым рэжыме. Судзіць палітвязня будзе суддзя Ленінскага раённага суда Магілёва.

Актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок асуджаны на 4,5 года зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму паводле артыкула аб хуліганскіх дзеяннях адносна афіцыйных будынкаў. Сваёй віны актывіст не прызнаў і адмовіўся падпісваць прашэнне аб памілаванні.

Міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі Мікалай Дзядок прызнаны палітвязнем.

У канцы траўня 2012 года паводле рашэння начальніка Шклоўскай калоніі №7 Мікалай Дзядок быў пераведзены ў памяшканне камернага тыпу на паўгады. Да гэтага яго неаднаразова прымушалі пісаць прашэнні аб памілаванні. За час знаходжання ў магілёўскай калоніі №15 і 17-й калоніі ў Шклове Мікалай атрымаў больш за 10 спагнанняў за розныя надуманыя парушэнні, кшталту «няправільна адрэагаваў на заўвагу», і не змог трапіць пад амністыю.

4 снежня 2012 года стала вядома, што адмысловая камісія калоніі прыняла рашэнне аб пераводзе Мікалая Дзядка ў турму. Прычынай абвешчаныя шматлікія спагнанні за парушэнне дысцыпліны, якіх палітвязню прад'яўлена ажно 22.

У лістападзе 2014 года, за 3 месяцы да заканчэння тэрміну, на Мікалая Дзядка завялі новую крымінальную справу па 411-м артыкуле за «парушэнне рэжыму адбыцця пакарання». Гэты артыкул прадугледжвае павелічэнне тэрміну зняволення да года.

«Следчыя дзеянні» цягнуліся 2 месяцы, потым справа была вернутая пракурорам на даследаванне яшчэ на месяц.

На волю Мікалай Дзядок павінен быў выйсці ўжо 3 сакавіка.

### СВІСЛАЧ. Выклікалі на прафілактычную гутарку

**Уладзіміра Прудніквава, медыка, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, выклікаў кіраўнік упраўлення аховы здароўя Гродзенскага абласнога выканкаму Андрэй Стрыжак.**

Актывіста здзівіла, што менавіта ў выходны дзень мясцовыя чыноўнікі вырашылі з ім пагаварыць, і што выклікаюць адносна фэсту, які адбыўся яшчэ ў кастрычніку 2014 года.

У час гутаркі Уладзіміру Прудніквава параілі не ўдзельнічаць у масавых мерапрыемствах грамадска-палітычнага характару, калі яны не дазволены ўладамі.

Прыгадаем, што летась у канцы кастрычніка ў Свіслачы традыцыйна ўшанавалі памяць паўстанцаў Каліноўскага. Пазней паўтара дзясятка чалавек былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці і пакараныя штрафамі.

### БЯРОЗА. Жыхарам горада нагадалі пра палітвязняў і зніклых

**У розных месцах горада з'явіліся ўлёткі з выявай палітзняволенага экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча з надпісам: «Свабоду палітвязням!». Да гэтага часу ў беларускіх месцах прымусовага ўтрымання знаходзяцца 6 палітвязняў: Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Ігар Пракапенка і Юрый Рубцоў.**




На адным з аўтобусных прыпынкаў цэнтральнай вуліцы Леніна быў вывешаны вялікі плакат з партрэтамі зніклых: Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага з надпісам: «Мы памятаем!». Палітыкі Віктар Ганчар і Юры Захаранка, прадпрымальнік Анатоль Красоўскі зніклі ў 1999 годзе, журналіст Дзмітрый Завадскі — у 2000-м. Адказу на пытанне, дзе яны і хто вінаваты ў іх знікненнях, няма да гэтага часу.

**Паводле spring96.org**

# Асамблея: стварыць салідарную інфармацыйную прастору

**17 лютага на пасяджэнні Рабочай групы Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый грамадскія дзеячы абмеркавалі магчымыя супольныя дзеянні беларускіх НДА напярэдадні Саміту Усходняга партнёрства ў Рызе. Старшыня Рабочай групы Сяргей Мацкевіч адзначыў, што бачыць Асамблею ініцыятаркай іншых сілаў «трэцяга сектара».**

Таксама прысутныя абмеркавалі праект заявы (будзе апублікаваны ў хуткім часе), прысвечанай супольнаму бачанню ўдасканалення Усходняга партнёрства на карысць беларускай грамадзянскай супольнасці.

Грамадскі дзеяч Вінцук Вячорка пракаментаваў гэту заяву. Для збережання еўрапейскага каштоўнаснага поля, адзначыў ён, найперш варта стварыць салідарную інфармацыйную прастору, у якую б уваходзілі Еўрапейскі саюз і краіны Усходняга партнёрства. Гэты кірунак дзейнасці мусіць стаць адным з самастойных, прыярытэтных у бліжэйшай будучыні.

Паводле Вячоркі, у інструменты стварэння гэтай прасторы ўваходзілі б супольныя тэлевізійныя і радыёпраекты, абмены аналітычнымі матэрыяламі, навіннымі стужкамі. Вельмі важна, каб існавалі гарызантальныя сувязі паміж незалежнымі медыямі шасці дзяржаваў, падлеглых дапамозе Усходняга партнёрства. У тым ліку трэба перагледзець місію «Еўраньюс» як еўрасаюзаўскага канала і ролю ў ім расійскай рэдакцыі.

У выпадку прыняцця палітычнага рашэння журналісцкія і аналітычныя супольнасці нашай краіны вельмі хутка напоўнілі б гэтую ідэю канкрэтным зместам, перакананы спадар Вячорка.

**Прэсавая служба Асамблеі НДА**

# Мінюст адмаўляецца ўзяць на сябе пенітэнцыярную сістэму

Генадзь КЕСНЕР

**Міністэрства юстыцыі лічыць заўчасным прымаць рашэнне аб перадачы пенітэнцыярнай сістэмы ад органаў унутраных справаў у падпарадкаванне Мінюсту, заявіў кіраўнік галоўнага юрыдычнага ведамства краіны Алег Сліжэўскі.**

Па словах міністра юстыцыі, гэтае пытанне з'яўляецца прадметам вывучэння міжведамаснай групы, яно разглядалася на пасяджэнні камісіі па судовых і прававых пытаннях пры прэзідэнце. «На сёння пакуль прынята пазіцыя пра заўчаснасць прыняцця такога рашэння. Разам з тым, я не выключаю, што гэтае пытанне ў перспектыве можа быць зноў узнятае», — сказаў чыноўнік.

Пытанне пра перадачу пенітэнцыярнай сістэмы ад Міністэрства ўнутраных справаў да Міністэрства юстыцыі не аднойчы ўздымалі юрысты і праваабаронцы. Але, як бачым, безвынікова. Пракаментаваць сітуацыю і канкрэтна пазіцыю Мінюста «Новы Час» папрасіў юрыста зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Уладзіміра Лабковіча.

Па-першае, адзначае суразмоўца, кантроль цывільнага міністэрства, якім фармальна з'яўляецца міністэрства юстыцыі, над пенітэнцыярнай сістэмай — гэта агульна прынятая практыка ў большасці дэмакратычных краінаў. У нас атрымліваецца, што супрацоўнікі міліцыі, то бок, Міністэрства ўнутраных справаў, спачатку вядуць праслед чалавека і следства, а потым самі ж выконваюць і пакаранне, што, безумоўна, спрыяе нягуманным адносінам да асуджаных, мяркуе эксперт.

«Мы назіраем у Беларусі, што дэпартамент выканання пакаранняў, і ў прынцыпе ўся пенітэнцыярная сістэма, скіраваныя на рэпрэсіі рознага кшталту, на парушэнне правоў тых асуджаных, якія знаходзяцца ў беларускіх турмах», — падкрэслівае Уладзімір Лабковіч.

# Бізнес-супольнасць просіць не працягваць нормы ўказа № 361

**Чатыры беларускія бізнес-саюзы накіравалі ў Мінфін ліст, у якім выступаюць катэгарычна супраць працягу норм указа № 361 для імпарцёраў.**

Дзеянне рэзананснага ўказа завяршылася ў канцы мінулага года. Ён прадугледжваў для імпарцёраў 90-дзённую адтэрміноўку права на вылік увазнога ПДК. У сувязі з гэтым са жніўня па снежань 2014 года імпарцёрам давялося выплачваць ПДК фактычна двойчы: першы раз — на мяжы пры ўвозе тавару, другі раз — пры выплаце падаткаў за справаздачны перыяд. Вярнуць звышвыплачаныя сумы ПДК імпарцёры маглі толькі праз тры месяцы. У выніку ў прадпрыемстваў-імпарцёраў утварыўся недахоп абаротных сродкаў на суму звышвыплачанага ПДК.

Нягледзячы на гэта, Мінфін распрацаваў праект указа аб вяртанні гэтай нормы. Згодна з дакументам, калі тавар накіроўваецца з краін, якія не з'яўляюцца членамі Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС), імпарцёрам, як і летась, давядзецца плаціць ПДК двойчы. Вярнуць звышвыплачаны ў бюджэт ПДК можна будзе праз тры месяцы.

Прадстаўнікі бізнес-саюзаў падкрэсліваюць, што прыняцце гэтага ўказа будзе мець шэраг негатыўных наступстваў.

«Па-першае, — гаворыцца ў лісце, — у арганізацый-імпарцёраў ідзе «вымыванне» абаротных сродкаў, якія яны могуць папоўніць за кошт крэдытных рэсурсаў, што пацягне за сабой павелічэнне сабекошту тавараў, што прывядзе да скарачэння паступленняў у бюджэт падатку на прыбытак. У выніку гэтага адбудзецца павелічэнне цэн для канчатковага спажыўца».

Па-другое, гэта негатыўна адаб'ецца на арганізацыях, якія імпартуюць машыны, абсталяванне, запчасткі і іншыя тавары вытворча-тэхнічнага прызначэння. Як вынік, кошт імпарту для беларускіх вытворцаў можа істотна вырасці.

«Пераарыентацыя прадпрыемстваў-вытворцаў наўпрост купляць неабходны імпартны тавар малымі партыямі часта прыводзіць да падаражання прадукцыі або немагчымасці яе пастаўкі», — адзначаюць прадстаўнікі бізнес-саюзаў.

Яны прагназуюць, што рэалізацыя норм праекта ўказа можа выклікаць дэфіцыт асобных імпартных тавараў на ўнутраным рынку. «Арганізацыі-імпарцёры з-за недахопу абаротных сродкаў аптымізуюць свае складскія запасы ў бок скарачэння, што выкліча дэфіцыт на рынку асобных пазіцый тавараў і будзе адбівацца на нестабільнасці цэн», — гаворыцца ў лісце.

Яго аўтары просяць Мінфін не прымаць праект указа ў падрыхтаванай рэдакцыі.

Ліст падпісалі кіраўнікі Беларускага саюза прадпрымальнікаў, Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва, Бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя Куняўскага, Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў.

**БелаПАН**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як перажыць крызіс

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Амаль праз два месяцы пасля валютнага абвалу чыноўнікі прызналіся, што крызіс у Беларусі мае месца быць. Але яны маюць планы дзейнасці і ў гэтай сітуацыі.**



Як паведаміў першы намеснік міністра эканомікі краіны Аляксандр Забароўскі (адзін з суаўтараў снежаньскага «падатку на валюту»), урад Беларусі мае тры сцэнары рэагавання на сітуацыю ў свеце і ў эканоміцы Расіі. Два сцэнары можна аднесці да вясёлкава-аптымістычных, трэці больш блізкі да рэальнасці. Першы сцэнар грунтуецца на прагнозе сярэднегадавога кошту нафты ў $60 за барэль і сярэднегадавога курсу расійскага рубля на ўзроўні 60 расійскіх рублёў за $1, другі, адпаведна — $50 за барэль і 62 расійскія рублі за $1, трэці — $40 за барэль і 80 расійскіх рублёў за долар.

Забароўскі не ўдакладняў, у чым заключаюцца гэтыя сцэнары. Прынамсі, якім будзе курс беларускага рубля, узровень інфляцыі на канец года, ВУП краіны, рост або падзенне рэальных даходаў і г.д. Але, зыходзячы з таго, што наш урад робіць менавіта зараз, нічога прыемнага нас не чакае. Нас зноў папросяць «зацягнуць паясы», і гэтае «зацягванне» будзе ўжо ўсур'ёз.

Наколькі гэтая зацяжка сур'ёзная, сведчыць той факт, што дзяржава вырашыла ўрэзаць выдаткі на самае святое — на праграмы і мерапрыемствы, якім ужо была абяцаная дзяржпадтрымка. Пра гэта паведаміў сам прэм'ер Андрэй Кабякоў. Агульны зрэз фінансавання даволі істотны, эканомія складзе Br 25,5 трыльёна. Як сказаў Кабякоў, у бягучым годзе будуць дабудаваныя толькі аб'екты з гатоўнасцю не менш за 80%, што дазволіць завяршыць ключавыя інвестыцыйныя праекты. Тым, у каго гатоўнасць 75%, фінансаванне, пэўна, будзе закрытае да лепшых часоў.

Кабякоў адзначыў, што «незалежна ад таго, які сцэнар будзе мець месца ў жыцці, яго рэалізацыя немагчымая без выканання дзвюх асноўных умоў: жыць па сродках і эфектыўнасць работы айчынных прадпрыемстваў павінна быць істотна павышана». «І гэта сёння не проста лозунгі», — дадаў ён.

Аб сур'ёзнасці сітуацыі сведчыць яшчэ і той факт, што сінявокая заклапацілася пра спагнанне пазыкаў. Зазвычай, пра такое не клапоцішся, пакуль самога не прыцісне. А зараз Генпракуратура Беларусі дамовілася з Генпракуратурай Расіі пра тое, што апошняя дапаможа беларускім калегам вярнуць валютную выручку беларускіх прадпрыемстваў, якую ім запазычылі расійскія партнёры.

Канешне, эфектыўнасць выкарыстання Генпракуратуры для вяртання валютнай выручкі ў краіну выклікае вялікія пытанні. Але тое, што гэта крок у правільным кірунку, ніхто не сумняваецца.

Нічога светлага гэтыя меры надзвычайнай эканоміі не нясуць і простым беларускім працоўным, бо галоўны чыннік эканоміі на дзяржпрадпрыемствах зараз — скарачэнне працоўных месцаў. Як было агучана падчас нядаўняга прэзідыума Беларускага прафсаюза работнікаў прамысловасці, за год з беларускіх прадпрыемстваў звольнілі каля 10 тысяч чалавек. Прычым, найбольшыя страты зазналі буйныя арганізацыі: больш за 2 тысячы чалавек было звольнена з ААТ «МАЗ», больш за 700 чалавек — з ЗАТ «Атлант», на 420 працоўных скараціўся персанал у ААТ «Мінскі маторны завод», ААТ «Барысаўскі завод «Аўтагідраўзмацняльнік» недалічыўся каля 480 чалавек.

Прычым у гэтай сітуацыі ўлады за што змагаліся, на тое і нарваліся. Як паведаміў галоўны прававы інспектар працы Беларускага прафсаюза работнікаў прамысловасці Іван Цыпко, для прамысловых прадпрыемстваў характэрная практыка заключаць кантракты толькі на год. «Людзі працуюць ад года да года і не ведаюць, што будзе далей. Гэта не садзейнічае стабілізацыі калектыву, работнікі чакаюць, што праз год, магчыма, будзе скарачэнне штата», — адзначыў Цыпко.

Такім чынам, кантрактная сістэма грае на баку эканамічнага крызісу. Калі людзі не ведаюць, што з імі будзе праз год, і ці застануцца яны праз такі кароткі тэрмін на працоўным месцы, у іх няма ніякага стымулу працаваць якасна. І ні пра якое «істотнае павышэнне эфектыўнасці працы айчынных прадпрыемстваў», што патрабуе Кабякоў, не можа ісці размовы. А між тым, самі дзяржаўныя прафсаюзы прыклалі руку да стварэння той сітуацыі, якую зараз разглядаюць як пагрозу. Нагадаем, што былы кіраўнік ФПБ Леанід Козік падчас «кантрактызацыі» працоўных быў віцэ-прэм'ерам.

А зараз той жа Цыпко як вялікае дасягненне прыводзіць факт, што з 10 000 звольненых ягонаму прафсаюзу ўдалося аднавіць на працы аднаго (!) чалавека ў ААТ «Мінскі завод аўтаматычных ліній».

Дарэчы, у гэтай сітуацыі варта задумацца і пра маючы быць прынятым указ «пра дармаедства і лайдацтва». Улады ўжо паціраюць рукі: ён яшчэ не прыняты, але ўжо дае плён. А органы працаўладкавання і СМІ ў паніцы: паводле афіцыйнай статыстыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на 1 лютага 2015 года ў краіне налічвалася 30,7 тысячы беспрацоўных. Гэта на 35,2% больш, чым год таму. Толькі за студзень колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у службах занятасці, павялічылася на 6,5 тысячы чалавек. Як вынік, узровень зарэгістраванага беспрацоўя ў цэлым па Беларусі павысіўся да 0,7% з ранейшых 0,5%.

Кажуць, «дармаеды і лайдакі» ў паніцы? Не верце. 10 000 афіцыйна звольнена адных сябраў прафсаюза прамысловасці. А на ўлік сталі толькі 6,5 тысячы чалавек увогуле па краіне. І гэта мы яшчэ не дачакаліся ў шэрагах беспрацоўных прадпрымальнікаў, якім з 1 сакавіка давядзецца закрывацца. Так што «лайдакі і дармаеды» не вельмі спадзяюцца на афіцыйную занятасць.

Да таго ж дзяржава і не можа забяспечыць працай усіх, хто па яе звяртаецца. Напачатку 2014 года для беспрацоўных было дзве вакансіі на аднаго чалавека (пра заробак гэтых вакансій памаўчым). А зараз ужо, высвятліла радыё «Свабода», чатыры прэтэндэнты на адну вакансію.

У такіх варунках прымаць нейкія карныя ўказы пра дармаедства — падобна смерці. Калі ўсе «лайдакі» сапраўды рынуцца рэгістравацца ў цэнтрах занятасці, хаця б для таго, каб пазбегнуць карных санкцыяў, то, баюся, колькасць беспрацоўных можа перавысіць колькасць працоўных.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андрэй Бандарэнка

**Былы кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» зноў змешчаны ў штрафны ізалятар.**



Праблемы ў Андрэя Бандарэнкі з'явіліся пасля таго, як шляхам правакацый яму паспрабавалі ў калоніі прысвоіць «нізкі статус». З-за гэтага ў атрадзе ён вымушаны быў адмовіцца ад прыёму ежы ў сталовай, наведвання лазні, паходаў у краму, прагляду тэлеперадач і нават ад тэлефонных званкоў. Гэта значыць, практычна ад усяго, каб абмежаваць кантакты з іншымі асуджанымі.

Як паведаміў Бандарэнка ў лісце да былога суддзі Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова, правакацыі са «статусам» прывялі да таго, што зняволены палічыў за лепшае сам напісаць заяву на зняшчэнне яго ў камеру ШЫЗА з палепшанымі ўмовамі (святло, прыбіральна, тумбачка). «Гэта тым больш апраўдана, што два дысцыплінарных спагнанні яму ўжо абвясцілі. Трэцяе пацягне за сабой прыняцце больш строгіх мер, у тым ліку пазбаўленне права на спатканне», — зазначыў Пастухоў.

У «бяспечным месцы» Бандарэнка будзе бавіць час да 5 красавіка. У канцы лютага яго чакае доўгатэрміновае спатканне з жонкай і дачкой.

У жніўні мінулага года Бандарэнка быў асуджаны на 3 гады зняволення па абвінавачанні ў злосным хуліганстве. У судзе ён гэтага не прызнаў, аднак выбачыўся перад пацярпелымі жанчынамі за хуліганскія дзеянні. У кастрычніку Мінскі гарадскі суд адхіліў скаргу Бандарэнкі.

## Андрэй Кабякоў

**На пасяджэнні Савета міністраў прэм'ер-міністр зазначыў, што попыт на валюту з боку прадпрыемстваў і насельніцтва задавальняецца ў поўным аб'ёме, а ўведзеныя ў снежні мінулага года абмежаванні ў сферы цэнаўтварэння будуць паступова адменены.**



«Патрэба ў валюце на біржы задавальняецца цалкам, адкладзены попыт на валюту адсутнічае, абменнікі працуюць у штатным рэжыме», — заявіў Кабякоў праз месяц пасля дэвальвацыі беларускага рубля аж на 40 працэнтаў.

Прэм'еру прыйдзецца верыць на слова, бо праверыць ягоныя сцверджанні на практыцы амаль немагчыма. Вось толькі ў выпадку з абменнікамі Кабякову варта было б удакладніць, што такое штатны рэжым. Бо ў канцы снежня абменнікі таксама працавалі ў штатным рэжыме, згодна з распісаннем сваёй працы. Толькі вось валюты ў іх не было, нягледзячы на заявы Нацбанка пра тое, як самалёты з наяўнымі доларамі ляцяць з Еўропы.

Між тым, яшчэ да нядаўняга часу рэгулятар забараняў падмацоўваць абменныя пункты і касы банкаў валютай.

## Дар'я Домрачава

**Беларуская біятланістка выйшла на першае месца ў агульным заліку, абышоўшы фінскую біятланістку Кайсу Мякярайнен. Акрамя таго, Домрачава ўзначальвае залік у індывідуальных гонках і спрынце.**



Між тым, Даша выдатна адзначыла і Дзень святога Валянціна. 14 лютага біятланістаў запрасілі ў рэстаран Holmenkollen Park Hotel, дзе адбыўся невялікі канцэрт: на другім паверсе рэстарана зрабілі імправізаваную сцэну, на якую паднялася чэшка Габрыэла Соукалава — залаты голас біятлоннага тура — і два гітарыста — амерыканец Лоуэл Бэйлі і француз Жан-Гіём Беатрыкс.

Хлопцы ўзялі першыя акорды, і Габі зацягнула It's in the Kiss — суперхіт, які шмат каму вядомы ў выкананні амерыканскай поп-зоркі Шэр. А Даша першая падскочыла з месца, каб зладзіць танцы. Яна была ў ружовых акулярах, а ў руцэ трымала сэрцайка на палачцы. На чорнай майцы Дар'і было напісана «Valhalla»: у скандынаўскай міфалогіі гэта рай для доблесных ваяроў.

Услед за танцуючай Домрачавай паднялася ўся наша жаночая зборная і швейцарка Гаспарын — і вечар перастаў быць млявым.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Хто распараджаецца рэсурсамі, той і бацька

**Прыніжаныя і залежныя людзі на дэманстрацыю сілы дзяржавы на постсавецкай прасторы рэагуюць аднолькава.**

Пачну з выказвання Леаніда Заікі: «На сённяшні дзень беларусы 80% грошай захоўваюць у валюце. Гэта значыць, што на 80% яны вераць Бараку Хусейну Абаму. Беларускаму рублю давяраюць толькі 20%, якія захоўваюць свае зберажэнні ў рублях. Гэта і ёсць рэальны перадвыбарчы рэйтынг Лукашэнкі».

У цэнтры «карціны свету» сучасных эканамістаў стаіць Homo economicus (чалавек эканамічны) — чалавек, паводзіны якога рацыянальныя і характарызуецца імкненнем атрымаць максімальную карысць.

Палітолагі пра такі тып чалавека не ведаюць. У чыстым выглядзе яго і на Захадзе адшукаць не так лёгка, а сярод родных хат верагоднасць сустрэчы з Homo economicus не перавышае верагоднасці сутыкнення са снежным чалавекам.

Канчатковыя мэты чалавека ніколі не бываюць эканамічнымі. Яны толькі хаваюць мэты больш высокага парадку. Падмацую гэту тэзу выказваннем адзінага палітыка (АП): *«Решим экономические проблемы — никакие беды нам не страшны. <…> Со всеми внутренними и внешними угрозами мы справимся. Никакой пятой колонне раскачать страну не дадим. Но если допустим провал в экономике, то можем потерять все — и доверие людей, и стабильность в стране, да и саму страну»*.

Пра што размова? Пра эканамічныя праблемы? Не. Пра ўладу, якую «мы» можам страціць, *«если допустим провал в экономике»*. Для АП утрыманне ўлады — мэта самага высокага парадку. Эканоміка — толькі сродак дзеля яе дасягнення.

## «Мы іх зрабілі»

Неразуменне гэтай азбукавай ісціны выяўляецца, у прыватнасці, у хваравітай цікавасці да электаральнага складніку сацыялагічных апытанняў.

Якім чынам прасцей за ўсё ўзняць рэйтынг? Калі зыходзіць з наяўнасці папуляцыі Homo economicus, варта павялічваць даходы насельніцтва. Але можна скарыстацца парадай дырэктара Левада-цэнтра Льва Гудкова: «Паказаць людзям, што «мы іх зрабілі!». На хакеі, на алімпійскай арэне, у галіне балета і, вядома ж, на вайне. Малая пераможная вайна — гэта стагоддзямі апрабаваны інструмент кароткачасовага гуртавання, гэта моцны наркотык кароткага дзеяння».

Як гэта працуе на практыцы, з сакавіка мінулага года нам дэманструюць расійскія сацыёлагі. Звернемся да апошніх лічбаў. 8 лютага Фонд грамадскай думкі (ФОМ) зафіксаваў гістарычны максімум электаральнага рэйтынгу прэзідэнта Уладзіміра Пуціна — 74%. І гэта на фоне катастрафічнага падзення індэксаў сацыяльных настрояў!

Каго «зрабіў» Пуцін? Украіну? Бярыце вышэй — Амерыку! Уклад Расіі ў сусветны ВУП складае менш за 2%, а дзяржаваў, якія пагадзіліся ўвесці санкцыі ў адказ на анексію Крыму, — 42%. Але якое гэта мае значэнне? «Мы ж іх зрабілі!»

А якім яшчэ спосабам залежны ад дзяржаўных шчадротаў чалавек зможа адчуць пачуццё нацыянальнага адзінства? Выключна калі ўявіць сваю краіну ў барацьбе са знешнімі ворагамі. Не без дапамогі прапаганды паняцці «краіна» і «ўлада» з'яўляюцца для яго сінонімамі. Краіна не ўспрымаецца як сукупнасць самадастатковых грамадзян.

Пры чым тут Беларусь? Не варта забываць пра тое, што нацыянальныя пясочніцы сфармаваліся ў межах адной цывілізацыі, і ўжо хаця б таму падабенства паміж імі больш, чым адрозненняў (калі хто не згодны з гэтым, хай адкажа на пытанне, чаму пасля распаду СССР беларусы не змаглі пайсці па шляху прыбалтыйскіх народаў).

## Падабенства і адрозненні

Большасць беларусаў ацаніла далучэнне Крыму да Расіі як аднаўленне гістарычнай справядлівасці (62% паводле дадзеных чэрвеньскага апытання НІСЭПД). Я тлумачу гэта існаваннем у беларускай культуры імперскага складніку.

Да праблемы падабенства/ адрознення беларусаў і рускіх існуюць два крайнія падыходы. Першы (афіцыйны) зыходзіць з культурнага адзінства, а адрозненне зводзіць толькі да таго, што «беларусы — гэта рускія, толькі са знакам якасці». Другі разводзіць беларусаў і рускіх па розных цывілізацыйных кватэрах. Яго адэпты аргументуюць сваю праваты, галоўным чынам, спасылкамі на «слаўнае мінулае» ў складзе ВКЛ.

Канешне, ВКЛ было часткай заходняй цывілізацыі. Аднак пісьменнік Алесь Адамовіч, калі характарызаваў Беларусь у канцы 80-х гадоў як «Вандэю перабудовы», зыходзіў не з мінулага, а з цяпершчыны. І ён не памыліўся. У 1994 годзе на




першых прэзідэнцкіх выбарах большасць беларусаў правату пісьменніка пацвердзіла.

Уласна лібералаў, гэта значыць людзей, што ясна разумеюць сэнс свабоды і інстытуцыйных рэформаў, у Расіі налічваецца 5–7%. Гэта ядро акружана яшчэ прыкладна 20% «тых, хто спачувае», чый узровень падтрымкі прынцыпаў лібералізму залежыць ад бягучай сітуацыі (паводле Левада-цэнтра). Таму не варта здзіўляцца, што 85% расіян падтрымала анексію Крыма. Гэта на 23 пункты больш, чым у Беларусі!

Такі высокі ўзровень падтрымкі Леў Гудкоў тлумачыць трансфармацыяй хранічнага ўсведамлення непаўнавартаснасці, залежнасці і прыніжэння пачуцця нацыянальнай велічы. Але гэта «ў іх». А «ў нас»?

А ў нас уверх пайшлі індэксы сацыяльных настрояў. І ў лідарах росту апынуўся індэкс чаканняў. Ён падняўся з -23 у снежні 2013 да -2 у сакавіку 2014-га (гл. табліцу).

Вось і думай зараз наконт падабенства/ адрозненняў беларусаў і рускіх. Асабіста я лічу, што залежныя і прыніжаныя на постсавецкай прасторы на дэманстрацыю сілы дзяржавы рэагуюць аднолькава. І нацыянальная прыналежнасць тут асаблівай ролі не адыгрывае.

## У дзвюх рэальнасцях

Але вернемся да пытання пра рэйтынг, што было пастаўлена эканамістам Леанідам Заікам. На Захадзе рэйтынгі палітыкаў наўпрост залежаць ад ацэнак іх практычнай дзейнасці. У нашым выпадку рэйтынг — гэта адлюстраванне ілюзій і спадзяванняў… тэлегледачоў. Тэлевізар, ён жа «скрыня», — гэта тое, што дазваляе беларускай «большасці» адчуць сябе грамадствам (народам, у тэрміналогіі АП).

Тыповы прадстаўнік «большасці» жыве адначасова двума жыццямі ў дзвюх рэальнасцях. У тэлевізійнай рэальнасці, галоўная функцыя якой палягае ў стварэнні нацыянальных, дзяржаўных і ўладных сімвалаў, ён — тыповы тэлепузік. Але ў рэальнасці, дадзенай чалавеку ў адчуваннях, ён — абывацель, заклапочаны праблемай фізічнага выжывання.

Рэйтынг АП у першую чаргу вызначаецца сімвалічнай роляй кіраўніка дзяржавы, якую ён адыгрывае ў тэлевізійнай рэальнасці. Але пакупніцкая здольнасць беларускага рубля — яна з штодзённай рэальнасці. Таму ставіць знак роўнасці паміж працэнтам насельніцтва, якія захоўваюць свае зберажэнні ў рублях, і рэйтынгам АП, мякка кажучы, некарэктна.

Аднак у кожнай строгай схеме пры жаданні можна знайсці мноства выключэнняў.

Абмяжуюся галоўным. Аўтаномнасць дзвюх рэальнасцяў адносная. Хто сёння памятае пра малую пераможную вайну Расіі ў Грузіі? Між іншым, яна таксама прывяла да росту пазітыўных настрояў у беларускім грамадстве, а заадно і да росту рэйтынгу АП. Але за пару месяцаў увесь пазітыў рассмактаўся. Кароткатэрміновым апынуўся ваенны канфлікт. Не тое, што цяперашні.

## 10 «сытых» гадоў

Эканамічныя фактары — стаеры. Палітычныя — спрынтэры. Таму на доўгіх дыстанцыях эканоміка перамагае палітыку. Але ва ўмовах пераводу грамадства са стану апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння інтарэсы тэлепузікаў здольныя прыглушыць інтарэсы абывацеляў.

За кошт «Крымнаша» і расійскай тэлеверсіі падзей на Паўднёвым Усходзе Украіны, такі поўнамаштабны пераход у Расіі і быў ажыццёўлены. У Беларусі працэс развіваўся па аналагічным сцэнары, але ступень грамадскага ўзбуджэння апынулася істотна ніжэйшай. Аднак яе хапіла для фарміравання Анамаліі–2014 (росту рэйтынгу АП на фоне пагаршэння эканамічных паказчыкаў).

10 гадоў з апошніх 15-ці тэмпы росту рэальных даходаў беларусаў былі двухзначнымі. І толькі адзін раз (у 2011 г.) Белстат паказаў зніжэнне, але ўсяго толькі на 1%. Такая дынаміка і сфармавала масавую веру ў беларускую мадэль і ў яе архітэктара. Разавыя дэвальвацыі гэтай веры не зламалі. Плямы, як вядома, бываюць і на сонцы.

Яшчэ адна прычына ўстойлівасці рэйтынгу АП — безальтэрнатыўнасць. Пытанне «Калі не ён, то хто ж?» актуальнае для большасці постсавецкіх краін. Збольшага яно народжана прапагандай. Нездарма ж у Беларусі АП прыватызаваў тэлебачанне і прысвоіў права асабіста прызначаць кіраўнікоў тэлеканалаў.

Аднак магчымасці прапаганды не варта перабольшваць. Наш тыповы прадстаўнік «большасці» з'яўляецца чалавекам дадзяржаўнай культуры. Для яго дзяржава — вялікая сям'я, у якой яе кіраўнік (бацька) валодае манапольным правам распараджацца рэсурсамі.

Галаву сям'і не выбіраюць. Павінна адбыцца нешта надзвычайнае, каб дамачадцы ўсумніліся ў праве бацькі распараджацца сямейным бюджэтам.

**ЯК ЗМЕНІЦЦА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ Ў БЛІЖЭЙШЫЯ ГАДЫ? (У ПРАЦЭНТАХ АД КОЛЬКАСЦІ АПЫТАНЫХ)**

| Варыянт адказу | 12'13 | 03'14 |
|---|---|---|
| Палепшыцца | 13 | 24 |
| Не зменіцца | 46 | 45 |
| Пагоршыцца | 36 | 26 |
| Індэкс чаканняў * | -23 | -2 |

* Індэкс чаканняў (розласць станоўчых і адмоўных адказаў)

# Як інваліду не быць утрыманцам?

Максім РУЖЫНСКІ

**Дэкрэт аб дармаедах, які можа быць падпісаны ўжо ў лютым, і масавыя скарачэнні на беларускіх прадпрыемствах балюча ўдараць па самай неабароненай у плане працаўладкавання катэгорыі насельніцтва — людзях з інваліднасцю.**

**У рамках праекта «Рэфорум», каардынацыяй якога займаецца Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (BISS) пры падтрымцы Еўракамісіі «Заўтра тваёй краіны» аналізуе, у якіх зменах мае патрэбу гэтая сфера беларускага грамадства.**

### Канстытуцыя гарантуе

Канстытуцыя Беларусі ўсім грамадзянам краіны, у тым ліку і людзям з абмежаванай працаздольнасцю, гарантуе права на працу. А ў законе аб сацыяльнай абароне інвалідаў сцвярджаецца, што палітыка беларускай дзяржавы накіраваная на іх інтэграцыю ў грамадства праз рэалізацыю права на працу. Пры гэтым дыскрымінацыя па прыкмеце інваліднасці забароненая.

Аб працадаўцах таксама падбалі: ім гарантаваная падтрымка ў выглядзе падатковых ільгот, а таксама шэрагу арганізацыйна-прававых формаў садзейнічання занятасці пры прыёме на працу людзей з інваліднасцю. Аднак на практыцы даводзіцца сутыкацца са шматлікімі цяжкасцямі.

— Прадпрыемствам, на якіх больш за 50% работнікаў — людзі з інваліднасцю, належаць падатковыя льготы, — тлумачыць каардынатар Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі. — Але гэта вельмі вялікая доля занятых — непад'ёмная для буйных прадпрыемстваў і практычна не рэальная для шырокага распаўсюджвання ў малым бізнесе. У горшых выпадках гэтая сітуацыя прыводзіць да нядобрасумленнага найму, з'яўлення «мёртвых душ».

У той жа час у Беларусі функцыянуюць прадпрыемствы, адкрытыя, у тым ліку, рознымі грамадскімі аб'яднаннямі людзей з інваліднасцю, яны гарантуюць стабільную працу вялікім працоўным калектывам.

— Драматычнасць сітуацыі ў тым, што чалавеку могуць прапанаваць толькі тую працу, якая ёсць, а не тую, якой ён хацеў бы і мог займацца, — кажа Сяргей Драздоўскі.

Гэта і зразумела: грамадскія арганізацыі ствараюць прадпрыемствы не толькі дзеля працоўных месцаў, а каб зарабляць грошы на сваё існаванне...

Ёсць і іншыя праблемы, напрыклад, адсутнасць матывацыі ў людзей з інваліднасцю працаваць і стыгматызацыі ў грамадстве: маўляў, якія з іх работнікі?

Асноўныя дакументы, якія рэгламентуюць адносіны інвалідаў, дзяржавы і бізнесу, таксама нярэдка ствараюць людзям з інваліднасцю праблемы.

Напрыклад, у адпаведнасці з Працоўным кодэксам, наёмны работнік пры наяўнасці інваліднасці абавязаны прадставіць працадаўцу працоўныя рэкамендацыі.

— Па ідэі — гэта добрая норма, якая павінна абараняць людзей з інваліднасцю, — кажа Сяргей Драздоўскі. — А на практыцы — гэта сур'ёзны бар'ер пры працаўладкаванні.

Працоўныя рэкамендацыі (па сутнасці — допуск да працы) ажыццяўляюцца медыка-рэабілітацыйнымі камісіямі (МРЭК), якія пры прыняцці рашэння ў значнай ступені абапіраюцца на дыягназ кліента.

— Чальцы МРЭК даюць рэкамендацыі на падставе пераліку прафесій, які быў складзены яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя: ён папаўняецца новымі прафесіямі і спецыяльнасцямі, але гэта не мяняе яго фармальнай сутнасці, што часам прыводзіць да абсурдных сітуацый. Напрыклад, калі кліенту з неабходнасці палегчанай працы традыцыйна рэкамендуюць спецыяльнасць «ліфцёр». Але што рабіць, калі ў акрузе няма ні аднаго ліфта? — кажа Сяргей Драздоўскі.

Зразумела, што трэба мяняць фармальны падыход.

### Вопыт суседзяў

У Польшчы, напрыклад, экспертныя камісіі з прыцягнутых спецыялістаў працуюць пры грамадскіх ініцыятывах: у рамках адной арганізацыі праводзіцца ацэнка магчымасцяў і патрэбаў кліента, яго прафесійная і псіхалагічная падрыхтоўка, інтэграцыя ў працоўны калектыў. Усе спецыялісты працуюць у цеснай звязцы, што дазваляе аб'ектыўна падысці да працаўладкавання.

— У Польшчы людзі з інваліднасцю доўгі час былі ізаляваныя ў майстэрнях працатэрапіі ці сядзелі дома, але гадоў дваццаць таму пачалася актыўная праца па дапаможнай занятасці. Сёння пазітыўных зменаў нямала, напрыклад, пастаянна павялічваецца колькасць людзей з інваліднасцю, якія маюць вышэйшую адукацыю, — распавядае трэнер па працы Малгажата Горонцы.

Малгажата ездзіла на стажыроўку ў ЗША, вывучала вопыт скандынаўскіх краін і цяпер, на яе погляд, можна казаць пра ўдалую польскую мадэль, якая павінна падысці і беларусам.

— Кожнае прадпрыемства ў Польшчы, дзе працуе больш за 25 чалавек, павінна забяспечыць працаўладкаванне 6% людзей з інваліднасцю. Працадаўцы, якія адмовіліся ўзяць на працу такіх супрацоўнікаў, штомесяц плацяць пэўную суму: гэтыя грошы ідуць на падтрымку працадаўцаў, працаўладкаваць людзей з інваліднасцю, — тлумачыць прадстаўнік Хельсінскага фонду па правах чалавека (Варшава) Яніна Класоўска. — Многія працадаўцы сёння аддаюць перавагу такім работнікам: яны адказна і дакладна выконваюць сваю працу, цэняць яе і не шукаюць іншых месцаў працаўладкавання.

27 гадоў у Польшчы існуе Фонд актыўнай рэабілітацыі, мэта якога — рэабілітацыя, хуткае аднаўленне інвалідаў-вазочнікаў і працаўладкаванне іх на адкрытым рынку працы. Дзякуючы дзейнасці фонду, многія інваліды-вазочнікі змаглі знайсці працу. Працаваць ім нельга, мабыць, толькі таксістамі.

— Пры пошуку працы да кожнага чалавека індывідуальны падыход. Можна выбраць дыстанцыйную працу. У іншым выпадку ўлічваецца тое, якую адлегласць чалавек можа пераадолець без праблем, аналізуецца, наколькі ён мабільны. Калі знаходзіцца адпаведнае месца працаўладкавання, з працадаўцамі вядуцца перамовы пра прыёму на працу інваліда-вазочніка, аказваецца садзейнічанне ў адаптацыі яго працоўнага месца. Працу знаходзяць нават людзі з максімальнай ступенню абязрушанасці, — распавёў прадстаўнік фонду Караль Паўляк.

Нашмат складаней знайсці працу людзям з псіхічнымі захворваннямі. Аднак і гэтае пытанне ў Польшчы навучыліся вырашаць.

— Працадаўцы асцерагаюцца рэцыдываў, таму неахвотна бяруць на працу людзей з псіхічнымі захворваннямі. Але такія людзі таксама хочуць прыносіць карысць грамадству, — распавядае сацыяльны работнік Эльжбета Коля. — Так нарадзіўся праект па зборы другаснай сыравіны (паперы, пластыка, шкла), у якім сёння занятыя 1400 чалавек. Нашы супрацоўнікі разумеюць, што іх праца важная для грамадства. Многія з іх перасталі саромецца незнаёмых людзей, сталі больш адкрытыя, таварыскія. Ім настолькі падабаецца праца, што яны не жадаюць сыходзіць у адпачынак, а калі камусьці неабходна прайсці лячэнне, то імкнуцца лячыцца амбулаторна, а не класціся ў бальніцу.



**У хуткім часе ў Брэсце і Брэсцкай вобласці пачнецца рэалізацыя беларуска-нямецкага праекта па працаўладкаванні людзей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця і фізічнымі абмежаваннямі, а таксама іх бацькоў, якія выйшлі на пенсію**

### Першыя крокі да працы

Яшчэ адна ўразлівая група — людзі з інтэлектуальнымі абмежаваннямі, для якіх неабходны праграмы, якія ўлічваюць асаблівасці кожнага, а таксама магчымасць складання індывідуальнага плана пошуку працы і персанальнага суправаджэння ў працэсе гэтага пошуку.

Тры гады таму ГА «БелАДДІіМІ» ўпершыню ў Беларусі рэалізавала праект «Першыя крокі да працы», які прадугледжвае суправаджэнне і працаўладкаванне маладых людзей ад 18 да 31 года з сярэдняй ступенню інтэлектуальных і фізічных абмежаванняў, якія не маюць працоўных навыкаў. Такое суправаджэнне прадугледжвае прымацаванне да кожнага чалавека з інваліднасцю асістэнта па працаўладкаванні, які забяспечвае кансультацыі па пытаннях пошуку працы, дапамогу ў падрыхтоўцы падыходзячых вакансій, падрыхтоўку да сумоўя і суправаджэнне да працоўнага месца і на працоўным месцы. Гэта вельмі важны момант: часта маладыя людзі, што знайшлі працу праз Цэнтр занятасці, доўга на ёй не затрымліваліся. А ўсё таму, што не былі створаны ўмовы працы, а на працоўным месцы не было спецыяліста, які б ім даступна патлумачыў, што трэба рабіць...

— Гэта інавацыйны праект, дзякуючы якому атрымалася працаўладкаваць 35 чалавек з інваліднасцю 1 і 2-й груп, — адзначае асістэнт па суправаджэнні і працаўладкаванні Эдуард Шыпіцын. — Паколькі да гэтага нічога падобнага ў краіне не было, мы самі шукалі інфармацыю і вывучалі досвед іншых краін, перш за ўсё Польшчы, Германіі, Швецыі.

Падводных камянёў Эдуарду Шыпіцыну давялося абыйсці нямала. Хоць у беларускім заканадаўстве ўжо няма паняцця «непрацоўная група інваліднасці», гэты стэрэатып да гэтага часу існуе, і МРЭК некалькім падапечным спачатку адмаўляў у рэкамендацыі на пэўныя віды дзейнасці.

— Але мы змаглі пераканаць экспертную камісію, што, напрыклад, нашаму кліенту з аўтызмам ідэальна падыдзе праца кур'ера: гэтая спецыяльнасць была дапісана ў графе «Рэкамендаваны прафесіі/спецыяльнасці», — распавядае Эдуард Шыпіцын. — У дачыненні да яшчэ адной нашай кліенткі, якая атрымала пасля траўмы інваліднасць з лёгкімі інтэлектуальнымі парушэннямі, МРЭК спачатку вынес рашэнне: дыягназ не дазваляе ёй выконваць абавязкі справавода. Аднак мы правялі дыягностыку, сабралі характарыстыкі з месца працы, хадайнічалі аб атрыманні рэкамендацый — і ўсё атрымалася!

У хуткім часе ў Брэсце і Брэсцкай вобласці пачнецца рэалізацыя беларуска-нямецкага праекта па працаўладкаванні людзей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця і фізічнымі абмежаваннямі, а таксама іх бацькоў, якія выйшлі на пенсію.

— Асаблівасць праекта ў тым, што ў ім разам з недзяржаўнымі арганізацыямі прымаюць удзел і дзяржаўныя, напрыклад, тэрытарыяльныя цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, якія дапамагаюць шукаць удзельнікаў, — распавёў старшыня і заснавальнік фонду «Stiftung Miteinander» (Германія) Рудзігер фон Ханследэн.

Германія мае больш доўгую гісторыю па працаўладкаванні людзей з інваліднасцю, чым Беларусь. Першапачаткова там ішлі па шляху стварэння спецыяльных майстэрняў, дзе людзі былі адгароджаныя ад навакольнага свету. Вядома, кожная такая майстэрня імкнецца захаваць сваё існаванне, аднак у найбліжэйшай будучыні плануецца іх максімальна ліквідаваць, каб даць магчымасць людзям выйсці на вольнае рынак працы.

**Пераклад НЧ**

# Беспрацоўныя на старце

Вольга ХВОІН

**Дробных бізнесоўцаў, як, зрэшты, і ўсю краіну, чакаюць цяжкія часы. Але менавіта для ІП зоркі сышліся асабліва небяспечна. Пустых месцаў у шэрагах гандляроў на рынках краіны становіцца ўсё больш.**



Ірына Яскевіч



Алег Шабетнік

Немагчыма вылучыць нейкі адзін, найбольш важкі фактар, што падкасіў дробных прадпрымальнікаў, якія займаюцца продажам тавараў лёгкай прамысловасці. З аднаго боку — беларускі рубель стаў каштаваць на 40% танней, з іншага — абавязковая сертыфікацыя тавару, што вымагае вялікіх партый паставак, дадатковых расходаў.

Нагадаем, 1 ліпеня 2014 года ўступіў у сілу ўказ прэзідэнта № 222, прыняты ў падтрымку тэхрэгламента Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці». Указ абавязаў ІП мець сертыфікаты адпаведнасці згодна з тэхрэгламентам МС на ўсе тавары, што ўвозяцца ў Беларусь. Рэшткі тавараў, увезеных да ўступлення ўказа ў сілу, дазволена прадаваць па старых правілах да 1 сакавіка 2015 года.

### На крысо ад пінжака

На буйным сталічным рынку «Ждановічы» становіцца ўсё больш вольных гандлёвых кропак. Некаторыя зачыняюць свае крамы ўвогуле, многія з некалькіх крамаў пакідаюць адну. Але настроі ва ўсіх песімістычныя: гавораць пра страты, амаль нулявыя продажы, пра тое, што аддаюць цяпер сезонны тавар ніжэй за цану закупкі, пра несправядлівасць урада ў дачыненні да ІП, высокія арэндныя стаўкі і гэтак далей. Як будзе выглядаць рынак хаця б праз паўгода, ніхто прагназаваць не бярэцца.

Ганна прадае мужчынскія гарнітуры. Гаворыць, што людзі моцна збяднелі: «Купляюць на вяселле не цалкам гарнітур, а толькі пінжак». Акрамя гэтага ёсць пэўныя складанасці ў сертыфікацыі. Справа ў тым, што гарнітуры Ганна прывозіць з Расіі невялікімі партыямі. І калі вытрымліваць новыя правілы, то, напрыклад, з трох гарнітураў адзін яна павінна аддаць на сертыфікацыю (там аб'ект экспертызы разбіраецца на дэталі і, натуральна, робіцца непрыдатным для продажу). Кошт гэтага гарнітура жанчына вымушана будзе закласці ў цану іншых тавараў, якая і так ужо немалая.

«Але неяк будзем працаваць. Я сыходзіць пакуль не збіраюся, бо няма куды», — сумна падводзіць рысу прадпрымальніца.

Дзве жанчыны ва ўзросце, блізкім да пенсійнага, гавораць, што свае рэшткі тавару (курткі і пухавікі) без сертыфікацыі так і не прапрадалі, а ў гэтым сезоне пакупнікоў на іх не знойдуць. «Зімы не было. Людзі нічога не купляюць».

У выхадны дзень гандлёвы цэнтр на Ждановічах паўпусты — наведвальнікаў мала, а прадаўцоў, калі верыць прадпрымальнікам, яшчэ менш.

Падзенне ўзроўню жыцця адчулі не толькі прадаўцы вопраткі і абутку. Сяргей Кулініч працуе на аўтарынку ў Ждановічах. Гаворыць, што ў яго продажы ў параўнанні з мінулым годам упалі, мо, у пяць разоў. І як ёсць хоць адзін продаж цягам дня, то ўжо добра.

«Арэндная плата за зямлю, на якой стаіць мой ралет, складае 650 долараў у месяц (30 долараў за квадратны метр). Многія сталі закрывацца. Ралет, які стаіць на тэрыторыі рынка, вывозяць, каб не плаціць арэнду за месца. Некаторыя ўшчыльняюцца — працуюць удвух у адным ралеце. І я чую, што з красавіка арэндная плата на рынку «Малінаўка» будзе ажно 42 еўра за квадратны метр. Я падаткаў плачу ў разы менш, чым арэнды», — распавядае Кулініч.

Паводле яго ацэнак, прадпрымальнікі раздробленыя, розныя і па менталітэту, і па даходах. Адсюль і няўменне гуртам «бацьку біць».

«Думаю, што не атрымаецца нічога змяніць. Але досвед паказвае, што людзі ў нас не трацяць час на барацьбу, а шукаюць лазейкі. А яшчэ, памятаеце, некалькі год таму, як забаранілі мець наёмных работнікаў, былі вулічныя акцыі пратэсту ў Мінску? Дык там мінчан-прадпрымальнікаў было, мо, працэнтаў дзесяць. Большасць былі з рэгіёнаў, бо яны там у значна больш складаных умовах і навідавоку. Прадпрымальнікі з неахвотай могуць падняцца на нейкі пратэст. І ўвогуле, гэта ж эканамічная сітуацыя ў краіне так склалася, а не вынік нейкага аднаго рашэння», — разважае Сяргей.

Ёсць меркаванне, што рынкі ў іх звыклым разуменні сябе зжылі. Ім на змену прыйшлі буйныя гандлёвыя цэнтры больш зручныя і сучасныя па сваёй сутнасці, з сеткавымі крамамі, якія маюць больш гнуткую палітыку цэнаў. Можна дадаць і ненавісную ўраду народную забаўку ездзіць на шопінг у Літву ці Польшчу. Да слова, маштабы замежнага шопінгу можна ацаніць па звестках польскай мытні. Так, за 40 дзён з пачатку 2015 года на памежных пераходах, размешчаных у Падляшскім ваяводстве, мытнымі службамі зарэгістравана 91 199 дакументаў TaxFree на суму 7 000 997 злотых (больш за 2 мільёны долараў). І гэта пасля абясцэньвання беларускага рубля, праблем з пакупкай валюты! Не забываем і пра інтэрнэт-шопінг: пошта загружаная пасылкамі з таварамі з усяго свету.




Рынак «Ждановічы» ў Мінску. Фота Вольгі Хвоін



Рынак «Ждановічы» ў Мінску. Фота Вольгі Хвоін

Гэта не значыць, што рынкі трэба прыкрыць. У пакупніка ўсё ж мусіць быць выбар.

### Форум прайшоў

Тым часам у Мінску 16 лютага прайшоў форум прадпрымальнікаў, які арганізавала рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Перспектыва». Паводле ацэнкі арганізатараў, у форуме ўдзельнічалі больш за тысячу чалавек. На мерапрыемстве былі прадстаўнікі Мінэканомікі, Міністэрства па падатках і зборах, а таксама Брэсцкага, Гродзенскага і Віцебскага аблвыканкамаў. Меркавалася, што форум мусіць даць адказ, як жа працаваць пасля 1 сакавіка. Але выглядае на тое, што ніякіх вынікаў ён не прынёс.

«Сёння прыйшоў час несці адказнасць чыноўнікам, якія далі Лукашэнку на подпіс указ №222, — цытуе кіраўніка «Перспектывы» Анатоля Шумчанку БелаПАН. — Па нашай інфармацыі ўсе чыноўнікі — з Мінгандлю, аблвыканкамаў — падтрымлівалі ідэю таго, каб працягнуць рэалізацыю лішкаў і пасля 1 сакавіка 2015 года, але нехта перапанаў у адваротным. Зараз трэба дачакацца моманту, калі стане вядома, хто меў рацыю. Мы клікаць нікога нікуды не будзем, няхай нас рассудзіць час. Ніхто нікога не падбухторвае, мы тут выказвалі свае меркаванні. Мы адзінае, што просім, — неадкладных перамоваў з удзелам прадпрымальнікаў і ўладаў».

Па выніках форума была прынята рэзалюцыя. Прадпрымальнікі патрабуюць ад уладаў увядзення мараторыя на дзеянне ўказа №222, увядзенне магчымасці рэалізоўваць лішкі прадукцыі бестэрмінова. Таксама прадпрымальнікі просяць спыніць праверкі і канфіскацыі тавару, арганізаваць сустрэчы з кіраўніком краіны Аляксандрам Лукашэнкам і правесці Першы агульнанацыянальны з'езд прадпрымальнікаў.

Выглядаюць гэтыя заклікі і просьбы сумнеўна з пункту іх магчымай рэалізацыі. Больш шанцаў на тое, што з сакавіка прадпрымальнікі перастануць выходзіць на працу. Бо працы папросту няма.

Прадпрымальнік з Рэчыцы Алег Шабетнік гаворыць, што ў яго ным горадзе сітуацыя такая ж, як і ў краіне. Цягам апошняга года 200 прадпрымальнікаў у Рэчыцы, па інфармацыі Шабетніка, спынілі працу. Усяму віной Мытны саюз. Беларусь мусіць прытрымлівацца тэхрэгламенту, нашы бізнесоўцы мусяць клапаціцца па суправаджальныя дакументы, а ў Расіі на гэтую тэму не замарочваюцца.

«Мытны саюз існуе толькі для нас. І ён невыгодны. У Маскве на рынках нават таблічкі вешаюць: «З беларусамі не працуем», каб не дурылі ім галаву з рознымі сертыфікатамі», — гаворыць спадар Шабетнік. Ён дадае, што мясцовыя бізнесоўцы накіроўвалі свае прапановы па арганізацыі працы дробнага бізнесу ў Міністэрства гандлю, Гандлёва-прамысловую палату. Але адказу пакуль не прыйшло.

Накіроўвалі свае прапановы чыноўнікам і прадпрымальнікі з Віцебска. «У Віцебску будзем шукаць радыкальнае рашэнне. Магчыма, з 1 сакавіка не будзем працаваць. Мы палічылі: 39–43% ад выручкі ідзе на накладныя затраты. І гэта без уліку студзеня, калі справы зусім швах! — расказвае старшыня аргкамітэта па стварэнні прафсаюза «Разам», віцебская прадпрымальніца Ірына Яскевіч. — У нас вымываюць грошы з абароту, як што, то адразу штрафы, канфіскацыі. Людзі проста плачуць, ёсць такія, каму няма чым плаціць за кватэру, бо грошы ўкладзеныя ў тавар. Мы станем цяжарам дзяржаве, як пойдзем на біржу працы. За час працы мы не бралі ў дзяржавы ні рубля. Плацілі падаткі, арэндныя платы, зараблялі сабе на жыццё. Мы не хочам для сябе нейкіх ільготаў. Пакуль мы плацім у бюджэт свае тры капейкі і корміМ сем'і, то дайце нам гэта рабіць!»

***

У Маладзечна на мясцовым рынку, куды раптам прыехала праверка, прадпрымальніца-в'етнамка легла пад колы міліцэйскага аўто.

У яе знайшлі парушэнні і хацелі канфіскаваць тавар, на які не было дакументаў. З жанчынай здарыўся нервовы зрыў, і яна пайшла на такі адчайны крок. Вакол месца здарэння сабралася шмат людзей, якія заступіліся за прадпрымальніцу.

TV

## 25 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія). 1-я серыя.
**15.10** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 6».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** «Трыумф. Героям спорту 2014». Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў.
**00.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.20** Сфера інтарэсаў.
**00.55** Дзень спорту.
**01.05** Камедыйны серыял «Сваты 6».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спадары-таварышы». Тэлесерыял.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**23.50** «Вячэрні Ургант».
**00.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**08.30** Фільм «Утаймаванне свавольнага». Італія, 1980г.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Красуні». Францыя, 1998г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2».
**10.05** Кіпень.
**10.25** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**11.20** Спартыўны баявік «Гладыятар» (ЗША).
**13.05** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.25** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**15.55** Рэпарцёр.
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія).
**17.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**20.50** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1 \ 8 фіналу. Арсенал - Манака. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1 \ 8 фіналу. Агляд.
**01.10** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 18-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.50** «Лісты мёртвага чалавека». Фантастычная драма (СССР, 1986 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.40** «Звычайны цуд». Музычны фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1978 г.).
**13.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Беларусі Паўла Пекура.
**13.25** «Мінін і Пажарскі». Гістарычная драма. 1-я і 2-я часткі (СССР, 1939 г.).
**15.10** «Навукаманія». Белбіяград.
**15.35** «Наперад у мінулае».
**16.05** «Святло і цені майго лёсу». Народная артыстка Беларусі Вольга Клебановіч. Дакументальны фільм.
**16.30** «Рэчавы доказ». «Цень лёсу». Дакументальны фільм пра праблематыку айчыннай археалогіі.
**17.00** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.30** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 18-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**18.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**18.45** «Джазавыя вечары ў філармоніі». Канцэрт польскай вакалісткі Ганны Марыі Ёпэк.
**19.50** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 1-я серыя (Партугалія-Францыя, 2010 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 2-я серыя.
**22.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.25** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 3-я серыя.
**23.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Беларусі Паўла Пекура.
**23.45** «Лёсы палонных генералаў». Дакументальны серыял. Фільм трэці «Кіеўская катастрофа».

### 5 Беларусь

**03.05** Баскетбол. НБА. «Вашынгтон» - «Голдэн Стэйт». Прамая трансляцыя.
**05.15** Біятлон. Моладзевы чэмпіянат свету ў Раўбічах. Эстафета.
**06.45** Козел пра футбол.
**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Спорт-кадр.
**08.10** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Масква) - «Дынама» (Мінск).
**10.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Першы матч. «Манчэстар Сіці» (Англія) - «Барселона» (Іспанія).
**11.55** Баскетбол. НБА. «Вашынгтон» - «Голдэн Стэйт».
**13.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Першы матч. «Ювентус» (Італія) - «Барусія» (Дортмунд, Германія).
**15.30** Тэніс. Турнір ВТА. Доха. Прамая трансляцыя.
**18.55** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. «Мяшкова» (Беларусь) - «Веспрэм» (Венгрыя). Прамая трансляцыя.
**20.35** Баскетбол. НБА. «Вашынгтон» - «Голдэн Стэйт».
**22.10** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Першы матч. «Баер» (Германія) - «Атлетыка» (Іспанія). Прамая трансляцыя.
**00.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Першы матч. «Арсенал» (Англія) - «Манака» (Францыя).
**02.35** PRO спорт. Навіны.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Два на два (тэледыскусія).
**10.55** «Валерый і Ірына», рэпартаж.
**11.15** «Ранча», серыял.
**12.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**12.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.45** Студыя «Белсат».
**13.20** Рэпартэр.
**13.45** Студыя «Белсат».
**16.10** Два на два (тэледыскусія).
**16.40** «Ранча», серыял.
**17.25** Эксперт.
**17.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Браніслаў Тарашкевіч.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда.
**21.00** Абʼектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Маю правы (юрыдычная праграма).
**22.10** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.30** Эксперт.
**23.00** Студыя «Белсат».

## 26 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Меладрама «Сем вёрст да нябёсаў» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія). 2-я серыя.
**15.10** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 6» (Украіна). Заключная серыя.
**16.40** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.05** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Дзень спорту.
**00.55** Камедыйны серыял «Сваты 6» (Украіна). Заключная серыя.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спадары-таварышы». Тэлесерыял.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**23.50** «Вячэрні Ургант».
**00.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Красуні». Францыя, 1998г.
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Профіль серыйнага забойцы». Аўстралія, 1998г.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**11.40** Лірычная гісторыя «Папялушка 4 х 4. Усё пачынаецца з жаданняў» (Расія).
**13.25** Ікра.
**14.00** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.25** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**16.00** Перазагрузка.
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2».
**17.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.15** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1 \ 16 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.45 «Спортлато 6 з 49», 21.50 «КЕНО».
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1 \ 16 фіналу. Прамая трансляцыя.
**01.00** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 19-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.50** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 1-я серыя (Партугалія-Францыя, 2010 г.).
**09.45** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.10** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 2-я і 3-я серыі.
**12.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка, літаратурнага крытыка Уладзіміра Карпава.
**12.25** «Сустрэчы ў «Букваедзе». Вячаслаў Зайцаў.
**13.15** М. Глінка. «Іван Сусанін». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**16.05** «Шчасце Алены». Творчасць рэжысёра, сцэнарыста, Алены Туравай.
**16.25** «Музыка-чарадзей». Мультфільм.
**16.35** «Размаўляем па-беларуску».
**16.40** «Наперад у мінулае».
**17.05** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 19-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**18.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**19.25** «Сіла веры».
**19.50** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 4-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 5-я серыя.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.30** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 6-я серыя.
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка, літаратурнага крытыка Уладзіміра Карпава.
**23.50** «Лёсы палонных генералаў». Дак. серыял. Фільм 4, закл. «Беларускія катлы».

### 5 Беларусь

**04.05** Баскетбол. НБА. «Х'юстан» - «Кліпэрз». Прамая трансляцыя.
**06.15** Тэніс. Турнір ВТА. Доха.
**07.50** PRO спорт. Навіны.
**08.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд першых матчаў 1/8 фіналу.
**08.45** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Веспрэм» (Венгрыя).
**10.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Першы матч. «Баер» (Германія) - «Атлетыка» (Іспанія).
**12.00** Баскетбол. НБА. «Х'юстан» - «Кліпэрз».
**13.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Першы матч. «Арсенал» (Англія) - «Манака» (Францыя).
**15.30** Тэніс. Турнір ВТА. Доха. Чвэрцьфіналы. Прамая трансляцыя.
**18.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**20.30** Авертайм.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Прамая трансляцыя.
**01.00** Тэніс. Турнір ВТА. Доха. Чвэрцьфінал.
**03.00** PRO спорт. Навіны.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Маю правы (юрыдычная праграма).
**10.40** 54 % (публіцыстычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу): Дачакаемся.
**11.45** «Валерый і Ірына», рэпартаж.
**12.05** «Рэвалюцыя... Крымская пастка», рэпартаж.
**12.35** Студыя «Белсат».
**13.05** Асабісты капітал.
**13.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**13.35** Студыя «Белсат».
**15.55** Маю правы (юрыдычная праграма).
**16.20** Форум (ток-шоу): Дачакаемся.
**17.00** «Востраў канібалаў», дак. фільм.
**17.55** «Рэвалюцыя... Крымская пастка», рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда.
**21.00** Абʼектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча.
**21.50** Рэпартэр.
**22.15** Відзьмо-невідзьмо.
**22.40** «Джэкі без Джэка», дак. фільм.
**23.35** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм: ч. 2.
**00.25** Студыя «Белсат».

TV

## 27 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія). 3. серыя.
**15.00** Навіны.
**15.10** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія). 1-я серыя.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3» (Украіна).
**17.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Нашы.
**21.55** Меладрама «Сем вёрст да нябёсаў» (Расія).
**23.50** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія). 1-я серыя.

### Н

**08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**14.35** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Балада пра салдата». Мастацкі фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Філамена». Мастацкі фільм.
**22.50** «Вячэрні Ургант».
**23.45** Вячэрні Мінск.
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Профіль серыйнага забойцы». Аўстралія, 1998г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.40** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Прышэльцы 2: калідоры часу». Францыя, 1998г.
**22.20** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тэрыторыя памылак».
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** «Насланне». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2» (Расія).
**10.10** Капейка ў капейку.
**10.40** Спартыўная драма «Другі шанец» (ЗША).
**12.55** Я хачу гэта ўбачыць.
**13.30** Кіпень.
**13.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.15** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**15.50** Вось дык так!
**16.30** Вострасюжэтны баявік «Кулінар 2» (Расія).
**17.35** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.35** Навукова-фантастычны баявік «Чужыя» ЗША Вялікабрытанія).
**21.00** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.20** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**21.50** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае реалити- шоў (Расія).
**22.55** Рэпарцёр.
**23.40** Фантастычны баявік «Прывіды Марса» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 20-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.50** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 4-я серыя (Партугалія, Францыя, 2010 г.).
**09.45** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.10** «Лісабонскія таямніцы». Гістарычная драма. 5-я і 6-я серыі (Партугалія, Францыя, 2010 г.).
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца, графіка Міхаіла Сеўрука.
**12.20** «Сіла веры».
**12.50** «Аўтограф». Інструментальнае трыа «Лірыца» Гомельскай філармоніі.
**13.15** Мультфільмы.
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**13.55** «Навукаманія». Белбіяград.
**14.20** «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны фільм (СССР, 1985 г.).
**14.50** «Роднае слова». Жыццё і творчасць пісьменніка Каруся Каганца.
**15.15** «Пейзажы скрозь час». Поль Сезан «Гара Сент-Віктуар».
**15.40** «Персона». Віктар Мярэжка.
**16.10** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 20-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**17.30** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**17.55** А.Адан «Жызэль». Спектакль Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра балета імя Леаніда Якабсона.
**19.25** «У гэтым паўднёвым горадзе». Драма (СССР, 1969 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Трайны крыж». Драма (Вялікабрытанія, Францыя, 1966 г.).
**23.15** «Камертон». Кампазітар Эдуард Ханок.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**04.05** Баскетбол. НБА. «Клiўленд» - «Голдэн Стэйт». Прамая трансляцыя.
**06.20** Авертайм.
**06.45** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу.
**09.30** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Першы матч.
**11.25** Баскетбол. НБА. «Клiўленд» - «Голдэн Стэйт».
**13.10** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Матч у адказ.
**15.00** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**15.30** Фактар сілы.
**16.00** Піт-стоп.
**16.30** Тэніс. Турнір ВТА. Доха. Паўфіналы. Прамая трансляцыя.
**19.30** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Першы матч. Прамая трансляцыя.
**21.45** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Другі матч.
**23.40** Змешаныя адзінаборствы. Fight Nights.
**02.10** Еўрапейскі покерны тур.
**03.05** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.20** «Джэкі без Джэка», дак. фільм.
**12.15** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.40** «Валерый і Ірына», рэпартаж.
**13.00** Студыя «Белсат».
**13.25** Два на два (тэледыскусія).
**14.00** Студыя «Белсат».
**16.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**16.45** «Джэкі без Джэка», дак. фільм.
**17.40** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм: ч. 2.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю правa (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Жыгімонт Ваза.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы камэнтар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы камэнтар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** «Украіна. Усё ў агні», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**23.20** «Дом», серыял.
**01.00** Студыя «Белсат».

## 28 ЛЮТАГА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Існасць.
**07.20** Камедыйны дэтэктыў «Залатыя нажніцы» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Кулінарная дыпламатыя.
**10.20** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).
**11.25** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**00.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**13.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Прэм'ера! Меладрама «Адзін на ўсіх» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**19.00** «Я магу!» Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.35** «Я магу!» Народнае шоу. Падвядзенне вынікаў.
**21.45** Меладрама «Мама нехацця» (Расія - Украіна).
**23.50** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Бацькоў у школу!».
**13.40** «Сем старых і адна дзяўчына». Мастацкі фільм.
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Ералаш».
**16.45** «100 мільёнаў».
**18.15** «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**23.05** АНТ прадстаўляе: «Легенды Life». «ДДТ».
**23.50** «Пена дзён». Мастацкі фільм.

### ТВ

**06.05** Фільм «Дзённік кар'ерысткі». ЗША, 2005г.
**07.35** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**08.30** «Прыгоды дылетанта».
**09.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**10.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.35** Фільм «Дрэсіроўшчыца тыграў». СССР, 1954г.
**13.25** «Нам і не снілася».
**16.00** «Рыцары ў спадніцах». Відэафільм.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** Фільм «Пяты элемент». Францыя.
**22.25** «Зорны рынг».
**23.40** Фільм «Дрэсіроўшчыца тыграў». СССР, 1954г.
**01.20** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Толькі для дарослых.
**07.20** Мастацкі фільм «Русалачка» (СССР-Балгарыя).
**08.55** Навуковае шоу прафесара Адкрывашкіна.
**09.30** Беларуская кухня.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**11.05** Капейка ў капейку.
**11.40** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае реалити- шоў (Расія).
**12.50** Вось дык так!
**13.25** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.50** Сямейная камедыя «Дзяжурны тата» (ЗША).
**17.30** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**18.30** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.55** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.45** Рамантычная камедыя «27 вяселляў» (ЗША).
**23.45** «Сустрэча з..».
**00.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1 \ 16 фіналу. Агляд.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «У гэтым паўднёвым горадзе». Драма (СССР, 1969 г.).
**09.15** «Камертон». Кампазітар Эдуард Ханок.
**09.45** «Бераг». Меладрама. 1-я і 2-я серыі (СССР-ФРГ, 1983 г.).
**12.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.30** «Шчаслівы чалавек». Лірычная меладрама (СССР,1970 г.).
**13.40** «Скарамуш». Вестэрн (Францыя, Італія, Іспанія, 1963 г.).
**15.15** «Навукаманія». Медыцына XXI стагоддзя.
**15.40** «Блажен, кто молча был поэт..» Творчасць паэта Веніяміна Блажэннага.
**16.10** Творчы вечар народнай артысткі Расіі Рымы Маркавай.
**17.25** «Дыя@блог P.S.».
**17.55** «Пасланне». Гістарычны эпас. 1-я і 2-я серыі (Вялікабрытанія, Марока, Ліван, Лівія, Кувейт, 1977 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Агідныя, брудныя, злосныя». Камедыйная драма (Італія, 1976 г.).
**22.55** «Стальныя звяры». Дакументальны фільм пра бранятанкавую тэхніку Германіі і СССР Другой сусветнай вайны. 1-я і 2-я серыі.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Баскетбол. НБА. «Портленд» - «Аклахома Сіці». Прамая трансляцыя.
**08.45** PRO спорт. Навіны.
**09.30** Піт-стоп.
**10.00** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Першы матч.
**11.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Другі матч.
**13.50** Баскетбол. НБА. «Портленд» - «Аклахома Сіці».
**15.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Крыстал Пэлас». Прамая трансляцыя.
**17.30** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Другі матч. Прамая трансляцыя.
**19.50** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/16 фіналу. Агляд тура.
**20.45** Тэніс. Турнір ВТА. Доха. Фінал.
**22.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Сандэрлэнд».
**00.40** Еўрапейскі покерны тур.
**01.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Жыгімонт Ваза.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.00** Казкі для дзетак.
**11.40** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**12.35** «Дом», серыял.
**14.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Браніслаў Тарашкевіч.
**14.25** «Валерый і Ірына», рэпартаж.
**14.45** «Джэкі без Джэка», дакументальны фільм.
**15.40** «Рэвалюцыя... Крымская пастка», рэпартаж.
**16.15** «Украіна. Усе ў агні», дак. фільм.
**17.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.40** Беларусы ў Польшчы.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.30** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**20.15** Мова нанова: «Мода».
**20.35** «Справы Бляяцкага», рэпартаж: ч. 3.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.10** Людскія справы: Хочаш міру – рыхтуйся да вайны.
**21.45** «Вандроўныя міны», мастацкі фільм.
**23.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.35** Студыя «Белсат».

TV

## 1 МАРТА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Музычная камедыя «Дзяўчына без адрасу» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.15** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» .
**11.20** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**00.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** «Трыумф. Героям спорту 2014». Дзённік.
**16.35** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**17.05** Выхад ёсць.
**17.40** Лірычная меладрама «Бабіна лета» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыйны дэтэктыў «Залатыя нажніцы» (Расія).
**00.00** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» .

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Шалапутныя нататкі».
**09.40** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Шоў-гульня «ТБ-таксі».
**12.10** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Улад Лісцьеў. Погляд праз дваццаць гадоў».
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Рыхт-у-рыхт!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.35** «Танцуй!».
**23.30** «Апошняе каханне на Зямлі». Мастацкі фільм.

### СТВ

**05.45** «Студэнты International». Серыял. Заключныя серыі.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Пяты элемент». Францыя, 1997г.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Фільм «Тры таполі на Плюшчысе». СССР, 1967 г.



**13.10** «Дарагая перадача».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Махляры». Германія - ЗША, 2002 г.
**22.30** «Дакументальны праект».
**00.15** Фільм «Тры таполі на Плюшчысе». СССР, 1967г.

### Беларусь 2

**07.05** Рамантычная камедыя «27 вяселляў» .
**08.50** Вышэй за дах.
**09.20** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.20** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.55** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**12.50** Я хачу гэта ўбачыць.
**13.25** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія).
**15.10** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**16.10** Навукова-фантастычны трылер «Чужыя» ЗША Вялікабрытанія).
**18.35** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.30** Спартыўная драма «Другі шанец» (ЗША).
**23.40** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**00.20** Фантастычны баявік «Прывіды Марса» (ЗША).

### Беларусь 3

**07.45** Калейдаскоп.
**07.55** «Пасланне». Гістарычны эпас. 1-я і 2-я серыі (Вялікабрытанія, Марока, Ліван, Лівія, Кувейт, 1977 г.).
**10.45** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Аляксандр Базылеў.
**11.25** «Наперад у мінулае».
**11.50** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.45** Калейдаскоп.
**12.55** «Лёс гігантаў». БелАЗ.
**13.20** «Стальныя зверы». Дакументальны фільм пра бранятанкавую тэхніку Германіі і СССР Другой сусветнай вайны. 1-я і 2-я серыі.
**14.20** «Уладзімір Співакоў запрашае». Канцэрт «Віртуозы Масквы» - сёння і заўтра.
**15.40** Калейдаскоп.
**15.50** «Цімур і яго каманда». Дзіцячы прыгодніцкі фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1976 г.).
**18.00** «Культпрасвет».
**18.35** «Трайны крыж». Драма (Вялікабрытанія, Францыя, 1966 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Пад акампанемент настрою». Канцэрт расійскага акцёра, музыканта і спевака Яўгена Дзятлава.
**23.00** «Культпрасвет».
**23.35** «Чужыя, блізкія...». Тэлеспектакль.
**01.30** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**03.35** Баскетбол. НБА. «Маямі» - «Атланта». Прамая трансляцыя.
**05.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Крыстал Пэлас».
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**08.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Сандэрлэнд».
**10.05** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Другі матч. Прамая трансляцыя.
**11.55** Фрыстайл. Этап Кубка свету. Раўбічы. Кваліфікацыя. Прамая трансляцыя.
**13.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**13.55** Фрыстайл. Этап Кубка свету. Раўбічы. Фінал. Прамая трансляцыя.
**15.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ліверпуль» - «Манчэстэр Сіці». Прамая трансляцыя.
**16.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Енісей». Прамая трансляцыя.
**18.45** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Металург» (Македонія).
**20.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Эвертан».
**22.05** Фрыстайл. Этап Кубка свету. Раўбічы.
**23.35** Баскетбол. НБА. «Лэйкерз» - «Аклахома Сіці».
**01.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** Казкі для дзетак.
**07.50** ПраСвет.
**08.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**08.55** «Валерый і Ірына», рэпартаж.
**09.15** Беларусы ў Польшчы.
**09.30** Два на два (тэледыскусія).
**10.05** Рэпартэр.
**10.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Браніслаў Тарашкевіч.
**10.40** Казкі для дзетак.
**11.20** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**11.45** Мова нанова: «Мода».
**12.00** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.25** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.20** «Кітай і рэальнасць», дак. фільм.
**14.20** «Від з дзясятага паверху», дак. фільм.
**15.10** «Справы Бяляцкага», рэпартаж: ч. 3.
**15.30** «Вандроўныя міны», маст. фільм.
**17.20** «Ранча», серыял.
**18.05** Людскія справы.
**18.35** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Павел Ян Сапега.
**20.00** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**20.25** «Справы Бяляцкага», рэпартаж: ч. 4.
**20.50** «Чачэнія: адваротны бок фасаду», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**21.20** Кінаклуб: «Анегін».
**21.30** «Анегін», маст. фільм, 1999 г., Вялікабрытанія.
**23.20** «Украіна. Усе ў агні», дак. фільм.
**00.15** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.

# Вяртанне паганцаў

Алег НОВІКАЎ

**Прэса краін паўночнай Еўропы лічыць, што пачатак будаўніцтва паганскага храму ў Ісландыі адчыняе новую старонку ў культурнай гісторыі рэгіёну.**



Ісландыю можна лічыць дзіўнай краінай не толькі з-за назваў мясцовых вулканаў, якія славянамоўны чалавек папросту не здольны вымавіць (памятаеце, як некалькі гадоў таму пакутавалі дыктары, намагаючыся распавесці, што ісландскі вулкан Эйяф'ядлайёкюдль парушыў сусветны графік авіяпералётаў). Заслугоўвае ўвагі таксама і гісторыя вострава, напрыклад, перыяд прыняцця хрысціянства. У адрозненне ад іншых народаў, ісландцы сталі хрысціянамі без асаблівага прымусу або экспансіі місіянераў. Прыкладна тысячу гадоў таму ў Ісландыі адбыўся народны сход, на якім дружна пастанавілі — пачаць верыць у Ісуса Хрыста.

Сёння такім жа дэмакратычным чынам ідзе адваротны працэс. У студзені сесія гарсавету ісландскай сталіцы вырашыла пайсці насустрач патрабаванням тутэйшых паганцаў і выдзеліць з бюджэту грошы на будаўніцтва першага за тысячу гадоў паганскага храму ў Ісландыі. Адмовіць у просьбе было цяжка — у Ісландыі пражывае ўсяго 330 тысяч чалавек, з якіх 2400 з'яўляюцца сябрамі арганізацыі «Ásatrú», галоўная задача якой — адрадзіць рэлігію старажытных вікінгаў. Паганцы — другая па колькасці канфесія ў краіне пасля хрысціян.

«Ásatrú» паўстала ў 1972 годзе з ініцыятывы аднаго мясцовага паэта і фермера. Паколькі ў 1970-я гады на Захадзе меў месца пошук новых каштоўнасцяў, секта хутка стала дастаткова папулярнай. Яе дзейнасць нават выйшла за межы Ісландыі. На цяперашні дзень філіялы «Ásatrú» існуюць у ЗША, шэрагу скандынаўскіх краінаў, Італіі, Іспаніі. У верасні 2013 года першая абшчына скандынаўскіх паганцаў была зарэгістраваная ў Расіі. Калі меркаваць па нейкіх пастах у інтэрнэце, аматары рэлігіі вікінгаў дзейнічаюць у суседняй Літве. Так ці інакш, па меры росту сваіх шэрагаў паганцы задумаліся пра тое, што ім для сваіх рытуалаў патрэбны асобны храм.

Храм, які пачнуць будаваць у сакавіку, будзе каштаваць ісландскім падаткаплацельшчыкам каля 927 тысяч долараў. Галоўны правадыр паганцаў (дарэчы, па прафесіі кампазітар) кажа, што храм будзе разлічаны на 250 наведвальнікаў. У асноўным тут будуць заключаць шлюбы, прымаць неафітаў, адзначаць розныя святы, праводзіць рытуалы. Архітэктурны план храма своеасаблівы — у памяшканні на 350 квадратных метраў будзе адтуліна ў даху, каб праз яе праходзіў прамень сонечнага святла, што мае містычнае значэнне ў скандынаўскай паганскай філасофіі.

На першы погляд, усё гэта нагадвае развіццё турыстычнай інфраструктуры або звычайны рух рэканструктараў, які апошнім часам вельмі папулярны таксама і ў Беларусі.

> Бум паганства ў Ісландыі — нешта большае, чым хобі або інтарэс да старажытнай гісторыі і культуры

Нават самі ісландскія паганцы прызнаюцца, што не вельмі вераць у Тора, Одзіна і іншых персанажаў старажытнай скандынаўскай рэлігіі. Адно з мясцовых англамоўных выданняў апытала некаторых вернікаў «Ásatrú», якія прызналіся, як ім смешна, калі яны чуюць пра кабылаў з васьмю нагамі (адзін з персанажаў міфалогіі вікінгаў). Па іх словах, у паганскай рэлігіі ім цікава «культурная метафара, маніфестацыя моцы прыроды, вывучэнне нейкіх малавядомых старонак псіхікі чалавека». Статут «Ásatrú» сцвярджае, што галоўная мэта праекту — сацыяльная актыўнасць, накіраваная на пашырэнне пра мінулае, а не пашырэнне рэлігійных вераванняў. Напрыклад, сябры «Ásatrú» вельмі цікавяцца археалогіяй.

«Мы імкнёмся ўспомніць спрадвечную веру, першапачаткова агульную для ўсіх індаеўрапейскіх народаў, тое, у што яны верылі, перш чым з'явіліся сучасныя рэлігіі. Тая вера былі забытая, калі з'явіліся Буда, Мухамед, Заратустра, Ісус… кожны са сваім вучэннем. Але мы не пазычаем па частках штосьці ў індуізму, штосьці ў зараастрызму… Мы шукаем іх агульную аснову, там, дзе забытыя мудрасць і праўда», — кажуць лідары «Ásatrú».

Аднак ёсць адзнакі таго, што бум паганства ў Ісландыі — нешта большае, чым хобі або інтарэс да старажытнай гісторыі і культуры. Па-першае, выбух моды на паганскую рэлігію адбываецца паралельна з крызісам ісландскай лютэранскай царквы (дамінуючай канфесій на востраве). Шэраг апошніх сексуальных скандалаў, фігурантамі якіх аказаліся лютэранскія пастары, моцна паўплываў на аўтарытэт хрысціянскіх установаў (хаця 80 працэнтаў ісландцаў дасюль лічаць сябе лютэранамі).

Яшчэ адзін фактар — доўгая эканамічная рэцэсія, што размывае старыя каштоўнасці. Пасля дэфолту 2008 года і эрозіі веры ў матэрыяльнае накапленне, сярод ісландцаў пачаўся пошук новых мадэляў светапогляду, у аснове якіх адмова ад гонкі за грашыма і прадметамі спажывання. Паганства, як кажуць жрацы «Ásatrú», гарантуе перагляд жыццёвых прыярытэтаў, і перш за ўсё адмову ад культу індывідуальнага спажывання на карысць больш духоўных заняткаў. Як піша адзін з амерыканскіх экспертаў, «Ásatrú» прапануе іншы падыход да паўсядзённых жыццёвых праблем. На яго думку, «не выпадкова, што колькасць сяброў секты вырасла ўдвая за апошнія пяць гадоў, калі краіна знаходзілася ў крызісе».

Таксама не выпадкова, што навіна пра храм выклікала рэзананс у іншых паўночных краінах, якія сталі ахвярамі крызісу. Напрыклад, ірландская прэса прадказвае рэнесанс мясцовага кельцкага руху і стварэнне на яго базе палітычных вітрынаў. Контуры палітычнага паганства можна прасачыць ужо зараз. Нягледзячы на захапленне фальклорам і рознымі культурніцкімі акцыямі, «Ásatrú» так ці інакш уцягваецца ў грамадска-палітычнае жыццё. Арганізацыя выступіла супраць легалізацыі абортаў, патрабавала пакарання для гандляроў наркотыкаў. У 1980-х гадах розныя аддзяленні «Ásatrú» заклікалі да абмежавання іміграцыі і бралі ўдзел у экалагічным руху. Палітолагі кажуць, што фізіяномія палітычнага паганства будзе вынікам барацьбы двух яго асноўных флангаў — правых радыкалаў і спірытуальных анархістаў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Пасля саміту «нармандскай чацвёркі» Мінск не супраць атрымаць дывідэнды за паспяховую арганізацыю перамоваў. Праўда, перспектывы на еўрапейскім кірунку пакуль туманныя. ЕС працягвае настойваць на «істотным прагрэсе ў сферы абароны правоў чалавека» і вызваленні палітвязняў, Расія ж у абмен на крэдыты чакае ад саюзніка падтрымкі ў супрацьстаянні з Захадам. Затое ўнутры краіны прапаганда атрымала карт-бланш на раскручванне вобразу Лукашэнкі-міратворца. Перад прэзідэнцкай кампаніяй 2015-га беларусам замест абяцанай зарплаты ў 1000 долараў прапануюць ацаніць заслугі кіраўніка дзяржавы, які не мяняецца больш за 20 гадоў, ва ўмацаванні міру.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Відавочна, што «Бацька» дапусціў шэраг памылак, загуляўшыся ў аўтарытарызм і сяброўства з Пуціным. Выправіць ён іх ці не, мы ўбачым у бліжэйшы час. Магчыма, усведамляючы маштаб пагрозы, што набліжаецца, Лукашэнка пойдзе на беспрэцэдэнтныя крокі на шляху маштабнага рэфармавання дзяржавы. Па ўсякім разе, першыя ахоўныя меры ад магчымай ваеннай агрэсіі ён ужо распачаў. Гэта датычыцца і ваенных збораў рэзервістаў, і новай рэдакцыі закона «Аб ваенным становішчы». У гэтым дакуменце, які ўступіў у сілу ўжо з 1 лютага, згадваецца і пра канцэнтрацыю войскаў іншых дзяржаў на мяжы з Беларуссю, і пра «зялёных чалавечкаў», і пра пагрозу анексіі часткі краіны, — гэта значыць, пра ўсё тое, чаго ўжо нацярпелася ад Расіі Украіна. Але цяжка зараз сказаць, ці стане гэта панацэяй ад агрэсіўнай палітыкі РФ. Ці разумее гэта сам Лукашэнка? Верагодна, усведамляе, хоць і недастаткова, таму што і ў ягоным атачэнні знаходзіцца шэраг набліжаных, якія мэтанакіравана адводзяць позірк прэзідэнта ад рэальных знешніх пагроз.

**«Деловая столица» (Украіна)**

Для Лукашэнкі, які дзесяцігоддзі быў непажаданы ў заходніх сталіцах як апошні дыктатар Еўропы, ужо сам факт, што ён з'явіўся ў Мінску ў іх кампаніі, ёсць падставай для сатысфакцыі. У маі ў Рызе павінен адбыцца чарговы саміт «Усходняга партнёрства» — праграмы ЕС, адрасаванай Арменіі, Азербайджану, Грузіі, Малдове, Украіне і Беларусі. З-за санкцый, у адрозненне ад лідараў іншых краін, Лукашэнка да гэтага часу ніколі не прымаў удзелу ў гэтых самітах. Аднак цяпер Мінск патрабуе, каб Лукашэнку афіцыйна запрасілі. Беларускі дыктатар хоча скарыстацца перамовамі, якія прайшлі ў Мінску, каб размарозіць адносіны з Захадам.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Рэйтынг Беларусі падняўся ў сувязі з удзелам краіны ў мірных перамовах па Украіне. Аб Беларусі ў сувязі з гэтым напісалі ўсе еўрапейскія газеты. Мясцовыя прапагандысты прыклалі максімум намаганняў для таго, каб зрабіць з пасрэдніцкай ролі Мінска магутную PR-акцыю. Журналісты мясцовых дзяржканалаў выязджалі ў Германію і Францыю, рыхтавалі там рэпартажы пра тое, як краіна — удзельніца перамоваў рэагуе на тое, што адбываецца ў Мінску. Нават з вуснаў еўрапейскіх экспертаў гучалі заявы пра «сур'ёзны дыпламатычны прарыў» Беларусі і пра тое, што яшчэ год таму Лукашэнка быў «апошнім дыктатарам Еўропы», а сёння яе галоўны міратворац. Мясцовыя прапагандысты настолькі захапіліся самапіярам, што часам нават складалася ўражанне, што прыезд у беларускую сталіцу прэзідэнта Францыі Франсуа Аланда і канцлера Германіі Ангелы Меркель — гэта і ёсць галоўная падзея, а зусім не ўрэгуляванне ваеннага канфлікту ва Украіне.

**«Независимая газета» (Расія)**

Лукашэнка не раз казаў, што Беларусь хоча радыкальна павялічыць аб'ём сваіх эканамічных сувязяў з Украінай. Таксама зразумела, што любы рост інвестыцый і гандлю магчымы толькі пры ўмовах захавання міру на Украіне, уключаючы і яе паўднёвы ўсход. Не варта забываць і пра разбураную баявымі дзеяннямі інфраструктуру Данбаса. Магчыма, Расія, Беларусь і Казахстан змогуць выйсці на нейкія прапановы па плане эканамічнага адраджэння Данбаса, прычым гаворка можа ісці не толькі аб тэрыторыях пад кантролем «народных рэспублік», але ўсяго рэгіёну (у адваротным выпадку будуць разарваныя многія тэхналагічныя і кааперацыйныя ланцужкі).

**«Новости-Казахстан» (Казахстан)**

# Еўрапейскія рэкруты Джыхаду

Мікалай АНІШЧАНКА



**Еўрапейскі саюз сутыкнуўся, магчыма, з самай масавай тэрарыстычнай пагрозай у сваёй гісторыі, стаўшы буйной базай для вярбоўкі наёмнікаў для вайны на баку «Ісламскай дзяржавы» ў Сірыі і Іраку. Хлопцы і дзяўчаты з ЕС тысячамі едуць на джыхадзісцкі фронт — і пэўная іх частка плануе тэракты па вяртанні.**

За ваенныя поспехі будаўнікі халіфату ў значнай ступені павінны дзякаваць іншаземцам. Пасля абвешчання Ісламскай дзяржавы ў чэрвені мінулага года колькасць замежных баевікоў значна падвысілася і склала каля 20 тысяч чалавек — лічба, параўнальная з колькасцю сірыйскіх і іракскіх апалчэнцаў. Паводле кіраўніка еўрапейскага праваахоўнага ведамства Europol Роба Уэйнрайта (Rob Wainwright), каля 5 тысяч з іх паходзяць з Еўрасаюза.

Каб зразумець, шмат гэта ці не, прывядзем інфармацыю амерыканскіх спецслужбаў. Паводле дадзеных, прадстаўленых на слуханнях у Камітэце нацыянальнай бяспекі Палаты прадстаўнікоў, за ўвесь перыяд сірыйскага канфлікту далучыцца да ісламскіх радыкалаў спрабавалі каля 150 грамадзян і рэзідэнтаў ЗША. Нехта з іх быў арыштаваны па дарозе ў зону баявых дзеянняў, нехта загінуў у баях — але ж ваявацъ працягваюць адзінкі.

Сярод еўрапейскіх краін больш за ўсё джыхадзістаў — з Францыі (каля 900), следам ідуць Вялікабрытанія (каля 500) і Германія (ад 300 да 550). Але па колькасці наёмнікаў, што ваююць у Сірыі, на душу насельніцтва абсалютны лідар — Бельгія. Іронія лёсу: сэрца Еўропы, краіна, якая апошнія дзесяцігоддзі прасоўвала ідэалы цярпімасці, пастаўляе ў цяплічныя ўмовы Блізкага Усходу расаду міжнароднага тэрарызму.

### Замуж за пакутніка

У лістападзе мінулага года спецназ штурмаваў венскую кватэру Эбу Тэджмы. Жытло 33-гадоваму мужчыне, ягонай цяжарнай жонцы і пяці дзецям было прадастаўлена гарадской радай. У кватэры сем'яніна, якому аўстрыйскі ўрад плаціў дапамогу па беспрацоўі, знайшлі безліч грошай, ювелірных вырабаў і ашчадных кніжак. Потым следства высветліць, што незадэклараванае багацце Тэджма атрымаў ад мусульман, якіх ён і сябры ягонай тэрарыстычнай групоўкі ў розных краінах Еўропы падштурхнулі да ўдзелу ў «свяшчэннай» сірыйскай вайне.

Сапраўднае імя Тэджмы — Місрад Амеравіч. Народжаны ў Сербіі басніец, ён стаў ісламскім радыкалам каля дзесяці гадоў таму ў вахабіцкай мячэці, якія інтэнсіўна будуюць і спансуюць у Босніі саудаўскія імамы. Пасля Місрад пераехаў у Вену, дзе басьнійская вахабіты дзейнічаюць амаль адкрыта. У тамтэйшай чачэнскай школе баявых майстэрстваў ён навучыўся абыходзіцца са зброяй.

Сяэднестатыстычны рэкруцёра баевікоў для «Ісламскай дзяржавы» ў Еўропе — эмігрант у першым пакаленні, які паходзіць з Балкан альбо шэрагу краін Паўночнай Афрыкі. Аднак гэты партрэт — не тыповы ў дачыненні да тых, хто едзе ваяваць у Сірыю. Сацыёлагі кажуць аб праблеме «трэцяга пакалення» — дзецях ці ўнуках імігрантаў-мусульман, якія не атрымалі годнай адукацыі, не змаглі інтэграваца ў кола сваіх равеснікаў і якія ў першую чаргу стаяць за сухімі паказчыкамі еўрапейскага моладзевага беспрацоўя.

> **Лічба ў пяць тысяч еўрапейскіх ваяроў «Ісламскай дзяржавы» можа быць значна заніжаная, бо спецслужбам цяжка гэта прасачыць**

Аднак часта рэкруты «джыхаду» яшчэ занадта маладыя, каб працаваць. У студзені дзве аўстрыйскія дзяўчынкі — 17 і 16 гадоў — спрабавалі ўцячы ў Сірыю, каб стаць жонкамі джыхадзістаў. Яны паспелі даехаць да Румыніі, дзе былі арыштаваныя мясцовай паліцыяй пры звычайнай праверцы дакументаў і дэпартаваныя на радзіму. Пра адну з іх вядома, што дзяўчо паходзіць з чачэнскай сям'і; паходжанне іншай не раскрываецца.

Двума месяцамі раней яшчэ дзве аўстрыйскія дзяўчынкі — 16-гадовая Самра Кесінавіч і 14-гадовая Сабіна Сялімавіч — да Сірыі ўсё ж такі дабраліся і з тэрарыстамі шлюбам пабраліся. «Ісламская дзяржава» нават скарыстала небаракаў у прапагандысцкіх мэтах, тыражуючы здымкі, дзе еўрапейкі пазіруюць у нікабах з калашнікавымі ў руках. Праўда, жыццё ў лагеры баевікоў шукальніцам прыгод хутка надакучыла. Пасля паведамленняў аб тым, што яны шукаюць шляхі вярнуцца ў Аўстрыю, прыйшла навіна аб заўчаснай смерці адной з іх і знікненні другой.

У студзені стала вядома аб затрыманні аўстрыйскай паліцыяй яшчэ аднаго падазраванага ў тэрарызме 14-гадовага юнака, які намагаўся з'ехаць у Сірыю. А самаму юнаму бельгійскаму «ваяру», якога паліцыі ўдалося вылічыць, увогуле 13 гадоў.



### Шанец для няўдачнікаў

Ваяваць за светлую шарыяцкую будучыню адпраўляюцца не толькі мігранты і не толькі мусульмане. Аценіць рэальны ўнёсак у джыхад «карэнных» грамадзян заходніх краін не падаецца магчымым; аднак рэальныя гісторыі такіх вандроўнікаў, якія раз-пораз прасочваюцца ў прэсу, кажуць аб тым, што такі трэнд існуе.

У асноўным «карэнныя» едуць не з ЕС, а з ЗША. Так, нядаўна амерыканскай паліцыі ўдалося перахапіць трох падлеткаў з Чыкага і трох — з Дэнвера, якіх у шэрагі баевікоў завабілі па інтэрнэце. У жніўні мінулага года ў баях у Сірыі загінуў 33-гадовы жыхар Каліфорніі з зусім не імігранцкім імем Дуглас МакАртур Маккейн.

Прыхільнікі нямецкага рэпера Дэса Дога былі здзіўленыя, калі ўбачылі яго імя ў спісе глабальных тэрарыстаў, які складае амерыканскі Дзярждэпартамент. Аказалася, 39-гадовы Дзяніс Кусперт (гэта сапраўднае прозвішча музыкі) мінулай восенню прысягнуў на вернасць кіраўніку «Ісламскае дзяржавы» Абу Бакру аль-Багдадзі. У апошніх відэа на інтэрнэт-рэсурсах экстрэмістаў яго можна, прынамсі, убачыць з адрэзаннай галавой «нявернага».

Цікава, што далёка не ўсе заходнія «ваяры» «Ісламскай дзяржавы» — мусульмане па паходжанні. Матывацыя наймітаў часта палягае не толькі ў адстойванні рэлігійных ідэалаў, але — у шмат якіх выпадках — у спробе вырвацца з наваколля, у якім магчымасці сацыяльнага росту для такіх, як яны, значна абмежаваныя, і самасцвердзіцца ў новым асяроддзі. Частка з іх не ўяўляе ўсёй жорсткасці ўмоваў і абставін, у якія імкнецца патрапіць, і шкадуе аб сваім учынку потым. Частку не пужае ані жорсткасць, ані бесчалавечнасць «джыхадзістаў».

Іслам, які некаторыя з дабравольцаў прымаюць ужо на Блізкім Усходзе, служыць для самаапраўдання сваіх уцёкаў са свету камфорту і свайго мінулага жыцця.

«Я быў грэшнікам. Я жыў у граху да таго, як прыняў іслам. Акружаны музыкай, наркотыкамі, алкаголем і жанчынамі», — кажа экс-рэпер Дэса Дог, а зараз — Абу Талха аль-Альмані, у сваім відэазвароце да мусульман свету, дапамагаючы ісламістам набіраць новае гарматнае мяса «джыхаду».

Крывадушнасць «ваяроў ісламу», якія забіваюць жанчыну камянямі за тое, што яна была згвалтаваная, але практыкуюць сексуальнае нявольніцтва на захопленых тэрыторыях, ці адмаўляюць сусветнаму сеціву ў існаванні, але актыўна скарыстоўваюць сацыяльныя сеткі для вербавання прыхільнікаў, экс-рэпера Абу Талху, як і тысячы ягоных паплечнікаў, чамусьці не бянтэжыць.

### Ветлівыя людзі

Пасля крывавых атак на часопіс «Charlie Hebdo» ў Парыжы напачатку студзеня адразу некалькі кіраўнікоў заходніх спецслужбаў заявілі, што іх ведамствы працуюць на мяжы магчымасцяў — і неўзабаве проста не змогуць спраўляцца з усёй нагрузкай: настолькі ўзрос узровень тэрарыстычнай небяспекі ў Еўропе.

Лічба ў пяць тысяч еўрапейскіх ваяроў «Ісламскай дзяржавы» можа быць значна заніжаная, бо еўрапейскім спецслужбам часта цяжка прасачыць, хто збіраецца, едзе на шарыяцкі фронт і вяртаецца назад. Па-першае, далёка не ўсе пачынаючыя баевікі арганізаваныя: даволі значная іх колькасць збіраецца ў Сірыю і Ірак самастойна. Па-другое, рэкруты карыстаюцца парадамі добразычліўцаў у сацыяльных сетках: ляцяць да буйных транспартных вузлоў накшталт Стамбула, а потым растварваюцца на тэрыторыі Турцыі; едуць да месца прызначэння кружным шляхам — праз Грэцыю ці Румынію; бяруць турыстычныя білеты ў абодва бакі, хоць і не збіраюцца вяртацца дадому адразу пасля тыднёвага «адпачынку». У самой Сірыі адсачыць шлях баевікоў немагчыма: большасць амбасадаў заходніх краін, у тым ліку амбасада ЗША, зачыненыя; і нават ЦВУ, паводле выведкавага карэспандэнта «Associated Press», не мае пастаяннай прысутнасці ў краіне.

У сваіх гідах тэрарысты раяць сваім падарожным прыхільнікам ні ў якім разе не паводзіць сябе як тэлевізійны ісламскі радыкал: не адрошчваць бараду, не крычаць на ўвесь аэрапорт пра свяшчэнную вайну і гэтак далей — але наадварот, ветліва ўсміхацца мытнікам і памежнікам, як годны еўрапейскі турыст.

Аднак не толькі тысячы дзеючых байцоў, якія могуць вярнуцца ў краіны ЕС, ёсць патэнцыяльнай пагрозай бяспецы саюза. Маўклівае спачуванне ідэалам «Ісламскай дзяржавы» сярод грамадзян і жыхароў адзінай Еўропы значна большае.

Прынамсі, выканаўцы нападу на «Charlie Hebdo» ніколі не былі ў Сірыі ці Іраку, хоць мінімум адзін з іх у 2011 годзе праходзіў джыхадзісцкую падрыхтоўку ў вахабісцкім лагеры ў Йемене. Колькі ж у еўрапейскіх іміграцкіх гета простых беспрацоўных хлопцаў, якія не бачаць для сябе выхаду з цяжкіх жыццёвых абставін, але могуць лёгка адшукаць у інтэрнэце інструкцыю па зборцы бомбы, ніводнай еўрапейскай спецслужбе не можа быць дакладна вядома.




# Вечны прэзідэнт

**Блізкая да Нурсултана Назарбаева грамадская арганізацыя заклікала да правядзення датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў. Пра тое, што і хто стаіць за гэтай ініцыятывай, журналісту «Новага часу» Алегу Новікаву распавёў казахскі праваабаронца Андрэй Грышын.**

***— Думаю, большасці беларускіх чытачоў не вельмі зразумелы ажыятаж вакол пастановы Асамблеі Народу Казахстана (АНК), што 14 лютага заклікала да новых выбараў. Адпаведна статуту, гэта арганізацыя нават не з'яўляецца юрыдычнай асобай. Чаму выключаецца версія, што заява АНК — гэта акт падхалімажу або інфармацыйнае «укідванне» з мэтай маніторынгу настрояў?***

— Калі размова ідзе пра АНК, усё вельмі сур'ёзна. Фактычна, Асамблея Народу Казахстана, якую, дарэчы, асабіста стварыў і курыруе Назарбаеў, з'яўляецца структурным кансультатыўна-дарадчым органам пры прэзідэнце. Пра тое, што выбары — справа вырашаная, сведчыць і апаратыўная падтрымка ініцыятывы з боку прэзідэнцкай партыі «Нур Атан». Нарэшце, усе, што адбываецца, вельмі нагадвае сцэнар 2011 года, калі таксама мелі месца датэрміновыя выбары прэзідэнта. Тады таксама іх ініцыятарам сталі нейкія фармальна няўрадавыя грамадскія арганізацыі.

***— Чым аргументуюць сябры АНК неабходнасць правесці выбары на год раней, чым гэта патрабуе Канстытуцыя?***

— На думку кіраўніцтва Асамблеі Народу Казахстана, выбары патрэбныя, каб эфектыўна рэалізаваць некалькі дзяржаўных праграм, а таксама забяспечыць рост гаспадаркі ва ўмовах эканамічнага крызісу і складанай міжнароднай сітуацыі. Нечаканы пункт: праз выбары спыніць спекуляцыі наконт фігуры пераемніка Назарбаева. Быццам, такога кшталту плёткі падрываюць грамадскую стабільнасць. Самы смешны аргумент за датэрміновыя выбары звязаны з двума юбілеямі: 75-годдзем Назарбаева і 550-годдзем казахскага ханства. Атрымліваецца, што юбілеі нейкім чынам нададуць выбарам сімвалічны капітал. Хаця ўжо зараз відавочна, што мабілізоўваць электарат будуць за кошт нагнятання жахаў пра ўкраінскі сцэнар, які, быццам, непазбежны ў выпадку сыходу Елбасы.

***— Якія, на тваю думку, сапраўдныя матывы Назарбаева, на карысць пераносу выбары?***

— Большасць экспертаў згодныя, што Назарбаеў паспрабуе бяду пагаршэння эканамічнай сітуацыі, бо наша гаспадарка залежная ад коштаў на нафту. На такім фоне ў 2016 годзе перамагчы будзе цяжка. Ёсць таксама меркаванне, што датэрміновая перамога патрэбная Назарбаеву ў якасці нейкага карт-бланш ад грамадства на непапулярныя эканамічныя рэформы накшталт скарачэння сацыяльных праграм або дэвальвацыю. Мая асабістая думка — вырашальную ролю адыгралі асабістыя комплексы Елбасы. Тут трэба прыняць пад увагу, што літаральна пару тыдняў таму згоду на ўдзел у сакавіцкіх выбарах даў 77-ці гадовы ўзбекскі гарант Карымаў. Паколькі паміж элітамі Казахстана і Узбекістана даўно ідзе нефармальнае спаборніцтва, Нурсултан успрыняў навіны з Ташкента як асабісты выклік і таксама вырашыў пераабрацца.

***— «Нурсултану Назарбаеву неабходна даць новы мандат агульнанацыянальнага даверу для паспяховага праходжання краіны ў перыяд глабальных выпрабаванняў... Гэтая ініцыятыва фактычна безальтэрнатыўная», — гаворыцца ў тэксце пастановы Асамблеі Народу Казахстана. Атрымліваецца, што пераможца будучых выбараў вядомы загадзя. Як казахі рэагуюць на тое, што іх чакае выбарчы фарс?***

— Сярод тых, хто цікавіцца палітыкай, дамінуе песімізм. Лепш за ўсё праілюстраваў стан рэчаў адзін з палітолагаў: «Казахі могуць бясконца глядзець на тры рэчы: як гарыць агонь, як цячэ вада і як пераабіраецца прэзідэнт». Увогуле ў нас за апошнія 10 год выбары ні разу каляндарна не праводзіліся адпаведна закону. Аднак на гэты раз усё выглядае больш трагічна. Была папулярная тэма, што Назарбаеў у наступным годзе ўсё ж пагодзіцца на транзіт улады. Цяпер відавочна, што зменаў ён не плануецца, як мінімум да 2020-га года. Некаторыя нават кажуць, што перанос выбараў — пахаванне рэспубліканскага ладу.

***— Якая рэакцыя апазіцыі на апошнія падзеі? Будзе яна выстаўляць свайго кандыдата або зробіць стаўку на байкот?***

— Казахская апазіцыя падышла да лютага 2015-га вельмі слабай і інертнай з-за хвалі рэпрэсій, што была выкліканая падзеямі ў Жанаазене. Апазіцыйны кандыдат у такіх умовах малаdüрэальны, хаця ёсць ідэя праймерызу. Гэта, на думку аўтараў ідэі, дапаможа апазіцыянерам вызначыцца з лідарам. Што тычыцца байкоту, то ліберальная фракцыя апазіцыі сапраўды прапануе байкатаваць выбары і адначасова правесці арганізаваную кампанію назірання, каб давесці наяўнасць фальсіфікацый. Аднак зноў жа паўстае пытанне рэсурсаў, якія трэба знайсці тэрмінова, бо выбары запланаваныя на красавік. Вымушаны пагадзіцца з адным з апазіцыянераў — адзіная надзея на дэвальвацыю. У выпадку эканамічных катаклізмаў Назарбаеў, натуральна, адтэрмінуе дату галасавання.

***— У выпадку, калі апазіцыя ігнаруе выбары, як будзе тлумачыць ЦВК адсутнасць прадстаўнікоў апазіцыі ў бюлетэнях?***

— Ніяк. Як правіла, стварэнне ілюзіі альтэрнатывы адводзіцца статыстам — нейкім марыянетачным палітыкам. Адзін з такіх, дарэчы, ужо паведаміў пра сваё жаданне зноў ісці на выбары, паколькі, па яго словах, гэта магчымасць «кайфануць». У дадатак Захад з-за напружанасці ў Афганістане і Сірыі на гэты раз можа заплюшчыць вочы на 97 працэнтаў галасоў за Назарбаева. Менавіта ў такой падтрымцы, па сведчанню некаторых крыніц, упэўнены Назарбаеў па выніках выбараў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Олаф Шольц



Пасля перамогі сацыял-дэмакратаў на камунальных выбарах 14 лютага ў Гамбургу іх лідар Олаф Шольц будзе новым прэм'ерам горада, які мае статус федэральнай адзінкі. За спіс кандыдатаў нямецкай сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD) аддалі галасы 45 працэнтаў выбаршчыкаў. Такі вынік нават даў падставы некаторым СМІ казаць, што новы прэм'ер Гамбурга стане кандыдатам у канцлеры на наступных федэральных выбарах. Гамбургскія выбары, акрамя ўсяго, сталі халодным душам для партыі Меркель. Хрысціянскі дэмакраты, якія раней былі пры ўладзе, атрымалі ўсяго 23 працэнты. У ратушу таксама ўпершыню прайшлі еўраскептыкі з партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AFD), за якіх аддалі галасы 6,2 працэнта. Вырасла папулярнасць партыі «Левыя» і партыі зялёных (эколагі ўвойдуць ва ўрадавую кааліцыю з ружовымі).

У Гамбургу, падаецца, пачалося адраджэнне лібералаў. Пасля серыі правальных зямельных выбараў партыя свабодных дэмакратаў нарэшце прадэманстравала някепскі вынік у 7,5 працэнта. Застаецца дадаць, што выбары ў Гамбургу — гэта другія запар зямельныя выбары, на якіх перамаглі эсдэкі. Калі трэнд працягнецца, у грамадстве можа ўзнікнуць запыт на змену ўлады падчас выбараў у Бундэстаг у 2017 годзе. Праўда, аналітыкі кажуць, што перамогу Шольца нельга разглядаць як калапс правых цэнтрыстаў. На іх думку, Олаф перамог дзякуючы таму, што ў вачах электарату выглядаў як Ангела Меркель мясцовага калібру.

### Мікалай Азараў



Былы прэм'ер міністр Украіны, адзін з лідараў Партыі рэгіёнаў, які збег у Расію пасля перамогі Майдану, апошнім часам зноў стаў мільгаць у расійскіх СМІ. Нагадаем, што месяц таму Азараў прэзентаваў кнігу «Украіна на ростанях» і даў рэзананснае інтэрв'ю, якое асвятлілі ўсе вядучыя расійскія СМІ. Збыліся прагнозы тых экспертаў, якія казалі, што гэта не выпадкова. 17 лютага старшыня думскай партыі «Справядлівая Расія» Сяргей Міронаў прапанаваў украінскай апазіцыі стварыць «урад у выгнанні». І лідарам кабінету, на яго погляд, павінен стаць не Віктар Януковіч, а Мікалай Азараў. Аднак гэта кандыдатура не падаецца палітолагам ідэальнай. З аднаго боку, на Азарава працуе той факт, што пасля прыходу да ўлады партыі Майдану за год ВУП Украіны ўпаў на 15 адсоткаў, а грыўна дэвальвавалася больш чым у тры разы. Але, з іншага боку, Азараў з-за свайго кепскага валодання ўкраінскай мовай успрымаецца ва Украіне як камічны персанаж. Таксама кажуць, што ідэя ўрада ў выгнанні мела хоць нейкі сэнс у мінулым красавіку, паколькі магла абгрунтаваць умяшанне Расіі ва ўкраінскія справы. Зараз жа гэта без карысці, толькі калі Расія возьме курс на адкрытую канфрантацыю з цяперашнімі ўкраінскімі ўладамі.

### Біньямін Нетаньяху



Прэм'ер Ізраіля незвычайна адрэагаваў на тэракт ісламістаў у Капенгагене 15 лютага. Праз некалькі гадзін пасля атакі ён заклікаў яўрэяў Еўропы калектыўна эміграваць на радзіму продкаў. «Мы кажам яўрэям, нашым братам і сёстрам: Ізраіль — гэта ваш дом», — сказаў палітык. Гэта ўжо другі падобны заклік Біньяміна. У студзені пасля нападу на рэдакцыю «Charlie Hebdo» ён заклікаў перасяляцца ў Ізраіль французскіх яўрэяў, чым выклікаў незадавальненне афіцыйнага Парыжу. Публіка падзялілася ў ацэнках дэмаршу прэм'ера. Па меркаванні адных, гэта чысты піяр напярэдадні хуткіх парламенцкіх выбараў. На погляд жа іншых, Нетаньяху кажа хаця і непажаданую, аднак праўду — узмацненне антысемітызму ў Еўропе прымушае яўрэйскую дыяспару думаць пра змену прапіскі. Пра гэта сведчаць і лічбы. У мінулым годзе ў Ізраіль пераехала каля 25 тысяч перасяленцаў, што на 30 працэнтаў больш за папярэдні 2013 год. Пры гэтым асноўную катэгорыю новай аліі склалі яўрэі Францыі (каля 7000 чалавек). Праўда, пры ўсіх гэтых паказніках большасць еўрапейцаў яўрэйскага паходжання ўсё ж нікуды не збіраюцца. Інакш бы адначасова ізраільскі ўрад не вылучыў 270 мільёнаў еўра на праект, у рамках якога яўрэяў старога кантыненту будуць агітаваць перасяляцца ў Ізраіль. Цікава, што, паводле плану, найбольш актыўна агітацыя за міграцыю будзе праходзіць у трох краінах — Францыі, Бельгіі і Украіне.

Сяргей ШАПРАН

**24 лютага Рыгору Барадуліну было б 80. Ён пайшоў з жыцця праз тыдзень пасля свайго 79-годдзя. Пайшоў, як сам напісаў у адным з апошніх вершаў, «у неба пехатою»...**



Вушача. У маміным садзе

# Дзядзька Рыгор

## ДЗЁННІК ВЫБРАНЫХ СУСТРЭЧ

З Рыгорам Барадуліным я пазнаёміўся ўзімку 1999 года падчас Міжнароднага фестывалю праваабарончага кіно, які праходзіў у мінскім ДК прафсаюзаў. Папрасіў тады сказаць колькі слоў для газеты «Имя», у якой я працаваў. І адразу дамовіліся пра другую сустрэчу і новае, ужо вялікае інтэрв'ю.

Неаднойчы бачыў яго на вуліцах Мінска (звычайна на тагачасным праспекце Машэрава, дзе і па сёння месціцца выдавецтва «Мастацкая літаратура», у якім працяглы час працаваў Барадулін, пакуль з прыходам новай улады не быў выправаджаны на пенсію). Рыгор Іванавіч уяўляўся чалавекам замкнёным, які «сам у сабе». Кожнага разу, калі выпадкова сустракаў яго, ён ішоў, засяроджана глядзячы сабе пад ногі, і толькі зрэдчас пазіраў на сустрэчных. «Барадулін — класік, да яго не падступіцца», — прыкладна так разважаў я тады. Але на самай справе ўсё аказалася інакш, і з той выпадковай сустрэчы ў 1999-м і пачалося нашае знаёмства.

Трэба сказаць, што працяглы час я не мог прызвычаіцца называць Барадуліна «дзядзькам Рыгорам», пра што ён настойліва прасіў, і яшчэ доўга Барадулін быў для мяне «Рыгорам Іванавічам». Праўда, пасля, калі пачаў звяртацца да яго «дзядзька Рыгор», казаць «Рыгор Іванавіч» было ўжо немагчыма.

Варта яшчэ дадаць, што ад самага пачатку я разумеў, з кім звёў мяне лёс, і таму амаль усе гэтыя пятнаццаць гадоў занатоўваў нашы гутаркі і сустрэчы. Дзённік гэты велізарны, таму прыгадаю цяпер толькі самае адметнае ў тым жыцці Рыгора Барадуліна, якому я аказаўся сведкам.

### 1999

**20 сакавіка.** Падчас другой нашай сустрэчы Барадулін казаў, у прыватнасці, што беларусы — гэта людзі з выбітым розумам і хворай душой. Гэтае вызначэнне сталася тады назвай інтэрв'ю. Калі ж пазней, праз дзесяцігоддзе, працаваў над кнігай «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным», дык нагадаў пра гэта Рыгору Іванавічу, бо памятаў, як пасля тэлефанавала адна абураная чытачка. Дзядзька Рыгор патлумачыў: «Я гаварыў гэта адначасова і з болем, і каб, што называецца, пацвяліць быка. Я так гаварыў, жадаючы, каб гэтага не было. Я хацеў, каб людзі задумаліся і паглядзелі на саміх сябе. Гэта старая ісціна: калі ўвесь час гладзіць па галаве, можна апошнія звіліны загладзіць, таму лепей і супраць поўсці прычасаць...»

### 2002

**13 чэрвеня**. У госці завіталі Барадулін са сваім сябрам — лекарам-ведзьмаком Пятром Кухарскім, былі гадзіны дзве. Вось што запомнілася з размовы. Пётра кажа: «Сёмуха мяркуе, што Барадулін вушацкі фальклор выдумаў». — «Ну, можа, трошкі і выдумаў», — дзядзька Рыгор так хітравата ўсміхнуўся, што мы ажно зарагаталі... Ці Пётра пытаецца, колькі Барадулін пераклаў вершаў для кнігі «Верш на Свабоду»? Мабыць, усе? Дзядзька Рыгор жартам: «Не, не далі с...кі ўсё пераклясці!» Ці вось прыгадаў, як аднойчы з некім удвух цягам вечара выпіў тры пляшкі кубінскага рому. «На раніцы прачынаюся, а сэрца як тыя курсанты маршыруюць па Чырвонай плошчы: бум-бум-бум! Ледзь дуба не даў!» Пазней чамусьці загаварылі пра вагу, дык я сказаў, што ў мяне ёсць шалі. Узважыліся: Барадулін — 85, Пётра — 102. Але было відавочна, што дзядзьку Рыгора гэта збянтэжыла, і таму мы некалькі разоў «пераважвалі» яго. Пасля ён казаў: «Так, адчуваю, што лішняе ёсць». І ўжо на развітанне падараваў цацачнае вярблюжаня, якое назваў вандроўнікам, — каб я браў у вандроўкі.

Яшчэ раней мне патэлефанавалі з «Камсамолкі» — пыталіся, у каго з беларускіх літаратараў можна ўзяць каментар адносна новага гімна Беларусі, які збіраюцца прымаць. Маўляў, званілі Барадуліну, але яго няма дома. Я адказаў, што хутка ён будзе ў мяне, і вось зноў званок... Ужо пасля кароценькага інтэрв'ю «Камсамолцы» дзядзька Рыгор казаў нам з Пётрам: «У сапраўднасці не ведаю, які там гімн прымаюць, але ўсё гэта часовае:



Рыгор Барадулін з Васілём Быкавым, 29 мая 2003 г.

пасля будзе і гімн іншы, і «Пагоня» вернецца».

**7 ліпеня.** Нечакана прыйшоў Пётр Кухарскі, а праз паўгадзіны і Барадулін, хоць мы дамаўляліся, што яны ў нядзелю будуць. Меркаваў, што пагаворым пра сексотаў (калі першым разам сказаў пра тое, дзядзька Рыгор у адказ узрадавана: «Гэта я з задавальненнем! Гэта любімая мая тэма!»), аднак Барадулін сказаў, што пачуваецца не лепшым чынам. Зрэшты, пасля пэўных пётравых маніпуляцыяй над ім прасядзелі чатыры гадзіны запар. Праўда, пра сексотаў дзядзька Рыгор распавядаў не шмат, што, зрэшты, было зразумела: цяжка гаварыць на гэтую «далікатную» тэму, не бачыўшы даносаў. Дарэчы, на маё пытанне пра аўтарства паэмы «Лука Мудищев» адрэагаваў нечакана рэзка, нават нервова: «Ай, не хачу аб гэтым гаварыць! Я ўжо казаў: я б лепей напісаў...»

Дзядзька Рыгор пазваніў зноў увечары, голас бадзёры. Яму сёння тэлефанаваў Васіль Быкаў, які прасіў даслаць нумар «БДГ для служебного пользования» з маім матэрыялам пра яго; па-другое, ён дае згоду на публікацыю ў «БДГ» сваіх успамінаў, аднак толькі ў кастрычніку, паколькі падпісаў кантракт з радыё «Свабода» (дзе пачынаючы з 15 ліпеня чытаў у эфіры свае ўспаміны), паводле якога любыя публікацыі магчымыя толькі ўвосень.

**4 верасня.** Расказаў Барадуліну, што рада Саюза пісьменнікаў прыняла рашэнне правесці з'езд 24 верасня, на з'ездзе можа быць Быкаў. Навіна ўсхвалявала Барадуліна: «Не трэба Васілю быць там, нават калі ён будзе ў гэты час у Мінску. Абавязкова скажу, калі пазвоніць».

Барадулін распавёў, што ўчора а палове першай ночы яму пазваніў Н., сказаў, што хоча застрэліцца. Гуляў сёння ў карты і выйграў пяцьдзясят долараў, але ў таго, хто прайграў, такіх грошай не было, дык прапанаваў Н.: ты дасі пяць долараў на таксі, а я табе — пісталет. Н. пагадзіўся. І вось цяпер гэты пісталет, паблісківаючы, ляжыць перад ім. Барадулін пачаў адгаворваць: «Навошта страляцца? Ты ж супраць Бога пойдзеш...» Здаецца, адгаварыў... Яшчэ прыгадаў, як Мятліцкі казаў пра яго: Барадулін перапісвае бяздараў, а пасля абвяшчае іх талентамі. Дзядзька Рыгор смяяўся: «Ну што ж, добрая характарыстыка».

**14 верасня.** Паведамленне на пэйджар: «Спадар Сяргей, прывітанне вам ад Васіля Быкава. Ён вам выслаў падрабязныя адказы на вашыя пытанні, і мы хвілін 5–7 хвалілі вас на два галасы. Поспеху, здароўя. Дзядзька Рыгор».

**17 верасня.** Патэлефанаваўшы Барадуліну, папрасіў яго напісаць слова пра Артура Вольскага, паколькі мы ў «БДГ», на жаль, нічога не напісалі з нагоды яго смерці. Барадулін ахвотна пагадзіўся, бо, казаў, сябраваў з Вольскім з 1954 года. Я яшчэ паведаміў, што буду прасіць Генадзя Бураўкіна весці ў нас рубрыку «на злобу дня». На гэта дзядзька Рыгор заўважыў, што паколькі ён дужа злосны, таму «на злобу дня» нічога пісаць не будзе, аднак гатовы зрабіць літаратурныя партрэты Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Вялюгіна, але найперш — Аркадзя Куляшова. І на развітанне, каб, па яго словах, падвысіць мне настрой, прачытаў верш Аляксандра Пракоф'ева:

*Любители праздного злословья,*
*Вам от души желаю одного:*
*Любите и е...сь на здоровье,*
*Но не за счёт здоровья моего.*

**25 верасня.** Увечары пазваніў Барадулін, якому я расказаў, што ўжо даўно чакаю абранага сёння старшынёй СБП Алеся Пашкевіча. Дзядзька Рыгор пазваніў зноў у адзінаццаць, запытаўся, ці прыйшоў Пашкевіч. Казаў, каб я ішоў дамоў і больш не чакаў... Я прачытаў дзядзьку Рыгору раздзел з будучага артыкула, дзе цытаваў яго «дурноты». У адказ Барадулін прадэкламаваў яшчэ такія свае радкі:

*Створаць памперсы інтым,*
*Ім зайздросьцяць унітазы.*
*Трэба памперсы і тым,*
*Хто падпісвае указы.*

**28 верасня.** Увечары паведамленне на пэйджар: «Спадар Сяргей, яшчэ адно. Харызматык. Адзін усім устаўляе клізму. І гэта лічаць за харызму. Гісторыю не здзіві дурыкі — яна асобная асоба. Праходзяць рыкі і шурыкі, як і здзіўленне і хвароба. Дзядзька Рыгор».

**19 кастрычніка.** Патэлефанаваўшы, распавёў Барадуліну, што прыйшоў ліст ад Быкава з інтэрв'ю. Дзядзька Рыгор прасіў зрабіць для яго ксеракопію, бо, патлумачыў, збірае матэрыялы пра Быкава. І пасля расказаў, што дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Мачульскі вазіў на кніжны кірмаш у Германію не першы быкаўскі том, а ўсяго толькі праспект Збору твораў. Затое нібыта павінен нарэшце з'явіцца 4-ты том Барадуліна (першыя тры тамы выйшлі ў 1996–1999 гадах, пасля быў працяглы перапынак; наогул кажучы, гэты Збор твораў быў анансаваны як пяцітомны —

так пазначана ў першым томе, але, пачынаючы з другога, быў названы ўжо проста Зборам твораў; пяты том з перакладамі «Мастацкая літаратура» не стала выдаваць). Яшчэ дзядзька Рыгор казаў, што вельмі рады, што звёў мяне з Быкавым, дадаў: «Васіль доўга прыглядаўся да вас».

Пазней Барадулін зноў патэлефанаваў: «Пан Шапран?» — нечакана звярнуўся ён. Дамовіліся сустрэцца на наступным тыдні, каб пазваніць Быкаву… З самага пачатку нашай размовы ў тэлефоннай трубцы Барадуліна ўзнікалі незразумелыя перашкоды (я дык чуў добра), з-за чаго дзядзька Рыгор увесь час недаўмеваў: «Ну, што ж гэта такое?!» Я нават двойчы перазвоньваў яму, пасля ён мне, але беспаспяхова. І калі ў чарговы раз узніклі перашкоды ў трубцы, Барадулін, не стрымаўшыся, вылаяўся: «Ды што ж гэта за б…ва?!» Дасюль ніколі не чуў, каб ён так лаяўся.

**14 кастрычніка.** Прыходзілі Барадулін і Кухарскі. Па маёй просьбе Барадулін падпісаў «Лісты ў Хельсінкі»: «Самаму, самаму, самейшаму Уладзіміру Мулявіну ад Васіля Вялікага й ад мяне — паклон і звычаньні здароўя! Дзядзька Рыгор». Мулявін патрапіў у аўтамабільную катастрофу і знаходзіцца на лячэнні ў Маскве. Каб падтрымаць яго, папрасіў некаторых пісьменнікаў падпісаць Уладзіміру Георгіевічу свае кнігі, каб пасля перадаць праз знаёмых музыкантаў «Песняроў».

**27 лістапада.** Гаварылі з Барадуліным пра рознае, запомнілася яго фраза: «Калі былі маладыя, жартам казалі: «Жыць можна і так, і эдак — абы памерці добра». З узростам усё больш пераконваешся ў слушнасці гэтай прымаўкі».

**26 снежня.** Дзядзька Рыгор прынёс тэкст навагодняга віншавання чытачам «БДГ» (рыхтую матэрыял «Беларускі народ віншуюць народныя», з нагоды чаго звярнуўся да народных пісьменнікаў Беларусі Васіля Быкава, Янкі Брыля і Рыгора Барадуліна):

*З Новым годам!*
*Вяльможныя бэдэгоўцы і бэдэгіні,*
*Хай ісьціна ў вашых сэрцах*
*Знойдзе сабе жытло!*
*Шчырэйце! Сьмялейце!*
*Цемра ўрэшце дагіне.*
*І запануе на Беларусі*
*Яго непагаснасьць сьвятло!*

## 2003

**28 студзеня.** Разам з Барадуліным, Пятром Кухарскім і Рыгорам Сітніцам хадзілі развітацца з Уладзімірам Мулявіным. Ішоў дождж. У Дом афіцэраў шматтысячная чарга. Барадулін з Кухарскім прыйшлі раней за мяне, пасля дванаццаці, у чарзе стаялі да дзвюх гадзін. Мы ўжо павінны былі ўваходзіць у Дом афіцэраў, але перашкодай стаў Лукашэнка — калі ён прыехаў, чарга хвілін дваццаць не рухалася…

**20 лютага.** Дзядзька Рыгор, завітаўшы ў рэдакцыю, прынёс кнігу «Здубавецце» з дарчым надпісам для расійскага акцёра Яфіма Шыфрына, які, як высветлілася, паходжаннем з Беларусі (падчас інтэрв'ю толькі пра гэта з ім і гаварылі, пра што я пасля распавёў Барадуліну):

*«Усьмешак нашых*
*Тут зьбярэцца з фунт.*
*Яфіму Шыфрыну —*
*Банзай гэзунд!*
*Дзядзька Рыгор*
*з Вушачы.*

20 лютага 2003.
P. S. Дзякуй Вам, Майстра, за любоў да Беларушчыны!»

Пазванілі Васілю Быкаву ў Прагу. Я пытаўся пра Караткевіча, паколькі рыхтую вялікі артыкул пра яго. Ужо пасля Барадулін казаў Васілю Уладзіміравічу: «Гэта ж Караткевіч казаў Брылю: «Пакуль не напішаш раман, ты г…но, а не літаратар». Гэта так Валодзя прымушаў Брыля пісаць раман… (Тут Быкаў нешта, мусіць, запярэчыў.) Не-не, гэта пры мне было. Але гэта так, да слова, Васіль, гэта не да справы… Ну, так яшчэ раз, Васіленька, Васіленька, здароўя, здароўя, здароўя, як у Вушачах называлі, і ў ручкі, і ў ножкі».

**24 лютага.** Дзень нараджэння дзядзькі Рыгора. Пазваніў, каб павіншаваць, а ён паведаміў сумную навіну — памерла сястра Караткевіча.

**26 лютага.** Разам з Барадуліным хадзілі развітацца з Наталляй Сямёнаўнай, праўда, ён спазніўся на паўгадзіны, бо пераблытаў час, калі павінны былі сустрэцца. (Ён патэлефанаваў зноў увечары, выбачаўся за спазненне, але голас быў ужо звычайны. Пасля Пётр Кухарскі сказаў, што калі трэба ісці на пахаванне, Барадулін робіцца сам не свой.) Дзядзька Рыгор, як і дамаўляліся, прынёс для «БДГ» сваё развітальнае слова «Паклон Вам, Наталля Сямёнаўна!», якое заканчвалася наступным чынам:

«Не паспею ў мітусні дзён пачытаць Вам вершы да Вашага юбілею. Дазвольце памяці Вашай пакланіцца радкамі:

*І яшчэ абляцела галінка адна*
*З радавітага дрэва крывіцкага духу.*
*Зацямнелая зорная баразна,*
*Унурыўшыся ў векавечную скруху.*

*А праб'ецца зялёны расток з-пад сушша*
*І ўсьміхнецца ад козаткі долі.*
*Душы родныя прывітае душа,*
*Каб ужо не разьвітвацца*
*Ніколі…»*

**27 сакавіка.** Барадулін, патэлефанаваўшы, нават напалохаў, бо сказаў (па голасе сам не свой): «З Васілём дрэнна» і замаўчаў. Сёння Быкаву зрабілі аперацыю.

**22 красавіка.** У Доме літаратара прэзентацыя паэтычнай анталогіі «Краса і сіла» Міхася Скоблы. Барадулін выступіў хораша, і прымалі яго вельмі добра. Калі яшчэ падымаўся на сцэну, гучалі такія апладысменты, якіх не было ні раней, ні пасля, што прымусіла Барадуліна спыніцца, крыху пастаяць, а пасля сказаць засмучана: «Я яшчэ жывы…» У зале смех. Пасля дзядзька Рыгор распавёў, што ў гэтай зале звычайна збіраліся толькі члены, а ён з Караткевічам хацеў быць не членамі, а сябрамі, але тыя, казаў Барадулін, настойвалі, бо ім, старым, было прыемна называць сябе членамі, а нам, маладым, было ўсё роўна… І зноў у зале смех. Барадулін, прабачаючыся, сказаў, што зараз ужо закончыць, бо, відаць, гаворыць нешта лішняе. І зноў смех. Дзядзька Рыгор працягваў выступаць у тым жа жартаўлівым духу, і таму ў зале смех, смех, увесь час смех… І толькі пра анталогію Скоблы гаварыў сур'ёзна: сказаў, што разам з Бібліяй Скарыны яна ўваходзіць у дзясятку галоўных беларускіх кніг, а якая ўжо па ліку — гэта гісторыя расставіць усё па сваіх месцах.

**15 мая.** Разам з Барадуліным патэлефанавалі Быкаву ў Прагу. Дзядзька Рыгор быў вельмі задаволены размовай з сябрам, тым больш, што Васіль Уладзіміравіч, сам таго не ведаючы, «падкінуў» яму некалькі радкоў для аповеду пра сябе. Так, калі Барадулін, кажучы пра падрыхтоўку быкаўскага фотаальбома, прапанаваў, як сам заўважыў, «в порядке бреда» назву «Васілёк у жыце Беларушчыны», Быкаў умомант адрэагаваў: «Так трэба было б назваць, калі б рана памёр». Пачуўшы тое, дзядзька Рыгор пачаў смяяцца і так махаць рукой, нібыта хацеў адхрысціцца ад гэтага.

**29 мая.** Апоўдні сустрэліся з Барадуліным. Васіля Быкава не было хвілін пятнаццаць (ён ужо ў Мінску, учора дамовіліся з ім сустрэцца), і дзядзька Рыгор пачаў хвалявацца, што, можа, нешта здарылася, патлумачыў, што Быкаў звычайна не спазняецца, і неаднойчы хадзіў да дарогі паглядзець, ці не едзе. Мы ўжо пайшлі былі званіць у ПЭН-цэнтр, як прыехаў Васіль Уладзіміравіч. Барадулін адразу прапанаваў пайсці на вуліцу, каб сфатаграфавацца, але Быкаў адказаў: «Пачакай. Я толькі цераз парог пераступіў, а ўжо фатаграфавацца…»

Васіль Уладзіміравіч запытаўся, куды можна прайсці, Андрэй Дынько, намеснік старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра (а, значыцца, Быкава) адказаў: «Куды хочаце, Васіль Уладзіміравіч, вы тут гаспадар». Пайшлі ў кабінет Карласа Шэрмана.

Праз пэўны час Дынько выйшаў. Яшчэ хвілін праз пятнаццаць з'явіўся Барадулін, казаў, што Быкаў прынёс заяву аб адстаўцы з пасады старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра, настрой у яго не лепшы яшчэ і таму, што ў яго праблемы з кватэрай — могуць выселіць, бо калі паехаў за мяжу, павінен быў выпісацца. Цяпер Бураўкін дапамагае ўлагодзіць гэтую справу. У гэтай сувязі Быкаў не стане каментаваць сітуацыю з закрыццём «БДГ», бо любая публікацыя можа павярнуцца супраць яго самога. Раней ён сказаў у адным інтэрв'ю, што хацеў бы памерці ў сваім ложку, дык цяпер і гэтага не дазволяць.

Калі Быкаў вызваліўся, пайшлі на вуліцу фатаграфавацца. На дзіва, пазіруючы, Васіль Уладзіміравіч быў вельмі цярплівы. Мо яшчэ таму, што нечакана для мяне пачаў хваліць мае фотаздымкі, казаў, што справа, відаць, не толькі ў оптыцы, але і выбары ракурсу, і нават правёў паралель паміж маімі фотаздымкамі і жывапіснымі працамі Крамскога. Вядома, чуць тое было прыемна і няёмка адначасова, бо тое казаў Васіль Быкаў, які, між іншым, сам займаўся фатаграфіяй.

Калі вярнуліся ў ПЭН-цэнтр, папрасіў яго падпісаць некалькі кніг, у тым ліку кінарэжысёру Ігару Дабралюбаву. Раніцай я тэлефанаваў яму, Ігар Міхайлавіч прасіў перадаць Быкаву, што ў Міністэрстве культуры адносна фільма па апавяданні «Жоўты пясочак» (якое Дабралюбаў ужо некалькі гадоў марыў экранізаваць) спасылаюцца на Міністэрства фінансаў — маўляў, грошай няма, трэба чакаць восені, аднак Дабралюбаў спадзяецца, што ўсё ж запусцяцца з фільмам. Зрэшты, Васіль Уладзіміравіч быў перакананы: з фільмам нічога не атрымаецца. І падпісаў асобнік «Пахаджан»: «Даўняму нястомнаму сябру Ігару Дабралюбаву — на ўдачу!»

Затым разам з Барадуліным пайшлі праводзіць Быкава да плошчы Перамогі. Яшчэ пры выхадзе з ПЭН-цэнтра, Васіль Уладзіміравіч хацеў быў зашпіліць куртку, але нешта ў яго не атрымоўвалася, дапамагчы ўзяўся Барадулін. Было ў гэтым нешта кранальнае — у гэтых турботах адзін пра аднаго, але Быкаў казаў жартам: «Кінь ты, Рыгор, я яшчэ не зусім здурнеў, толькі напалову». Мы пасмяяліся. Барадулін яшчэ прапанаваў дапамагчы сябру несці партфель, але Васіль Уладзіміравіч зноў жа адмовіўся, патлумачыў, што партфель не цяжкі, тым больш што там, казаў, ляжаць газеты з добрымі думкамі (гэта я даў Быкаву нумары «БДГ», дзядзька ж Рыгор нёс у пакунку «Чонкіна» Уладзіміра Вайновіча з дарчым аўтографам аўтара Быкаву).

Ужо ў падземным пераходзе Быкаў папрасіў сябра не рэкамендаваць яго таксістам, бо, заўважыў, мінулым разам ён так «адрэкамендаваў» яго, што Быкаў вымушаны быў заплаціць удвая даражэй. Пры гэтым Васіль Уладзіміравіч прыгадаў Стэйнбека, які пісаў, што страта невядомасці ўскладняе жыццё… Ужо каля таксі яны расцалаваліся, і Быкаў паехаў «неадрэкамендаваны».

**17 чэрвеня.** Разам з Барадуліным і Бураўкіным былі ў Быкава ў Бараўлянах. Даўнія сябры, яны вельмі цёпла павіталіся, Рыгор Іванавіч і Генадзь Мікалаевіч нават пацалавалі рукі Быкаву… Былі мо гадзіну. Васіль Уладзіміравіч казаў, што даглядаюць яго тут добра, і дырэктар інстытута прыходзіў, і дзяўчаты-мядсёстры ўвесь час завітваюць. Праўда, два папярэднія дні было дужа цяжка. «Думаў, што сканаю», — сказаў Быкаў.

Барадулін і Бураўкін перадалі прывітанні ад агульных сяброў. Пасля Генадзь Мікалаевіч распавёў, што нядаўна ездзіў па родных мясцінах, народ, казаў, паўсюль бяднее… Не помню, у звязку з чым (мабыць, з-за барадулінскага ката Мірона) Быкаў раптоўна прыгадаў, што ў дзяцінстве ў яго быў кот, «здаравенны кацяра», казаў. Дык калі сойдзе снег, кот з хаты сыходзіў, а вяртаўся толькі перад маразамі. У якасці прабачэння заўсёды прыносіў труса і пасля цягнуў яго пад падстрэшша. Няма прывалок такога вялікага труса, што не здолеў усцягнуць… «А яшчэ была кура, — працягваў Васіль Уладзіміравіч. — Раба. Несла самыя лепшыя яйкі ў свеце. Але мы іх не елі — бацька насіў прадаваць за пяць рублёў. За гэтыя грошы шмат чаго купілі. Але аднойчы нашу Рабу каршун унёс».

Калі сабраліся сыходзіць, Быкаў нечакана запытаўся (я быў ужо на парозе): «А вы, Сярожа, напэўна, хочаце сфатаграфаваць?» Гэта дужа збянтэжыла, бо я не толькі ні пра што падобнае не пытаўся, бо бачыў, у якім стане Васіль Уладзіміравіч, — нават фотаапарат не даставаў з сумкі… Так я і фатаграфаваў ці аднаго Быкава («Снимок на смертном одре», — з сумам заўважыў Васіль Уладзіміравіч), ці ўсіх разам — Бураўкін прысеў на быкаўскі ложак, Барадулін на падлогу…

На развітанне Быкаў сказаў сябрам: «Вы напомнілі мне маё здаровае мінулае». І перадаў прывітанне Дамінічцы і кату Мірону Барадуліна… Ужо на парозе дзядзька Рыгор нечакана запытаўся, мусіць, маючы мяне на ўвазе: «Васіль, можа, скажаш што-небудзь для газеты?», аднак Быкаў у адказ: «Потым».



Бараўляны. Рыгор Барадулін разам з Генадзем Бураўкіным у Васіля Быкава, 17 чэрвеня 2003 г.

Працяг будзе

# Двое з дзясятка лепшых

Аляксей ХАДЫКА

**Напрыканцы мінулага тыдня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры», выставачнай палітыкай якой з'яўляецца прасоўванне маладых і адносна маладых творцаў, адбыліся два вернісажы. Малавядомымі іх герояў назваць цяжка, аднак, можна сцвярджаць: іх кар'еры знаходзяцца ў пачатку, і пачатак у абодвух паспяховы.**



Марыя Барысенка

## Сяргей Аганаў

12 лютага сваю калекцыю прац пад назваю «XL» прэзентаваў скульптар Сяргей Аганаў. Дарма шукаць у двух адведзеных аўтару залах галерэі працы вялікага, як можа падацца з назвы экспазіцыі, памеру: прадстаўлена малая станкавая скульптура, а абрэвіятура адносіцца да ўзросту мастака. Гэта рымская лічба 40, што адпавядае першаму «сурёзнаму» юбілею, які адзначае Сяргей Аганаў: веку для творчых прафесій яшчэ ўмоўна маладому, але дастатковаму для падсумавання першых кар'ерных вынікаў.

Скульптару пашанцавала зрабіцца шырока вядомым за кошт «эфекту Жбанава» — адна з яго работ выйшла на прасторы мінскіх плошчаў і з 2014 г. заняла пачэснае месца побач з Ратушай. Гэта вядомы ўсім мінчукам «Войт», фігура якога ўзвышаецца над планам старога Мінска.

Адзначым, што гістарычная, як і міфалагічная, а праз яе звязаная з пошукам вобразных першаўзораў-архетыпаў, тэматыка для Аганава блізкая, што ўбачаць і наведвальнікі выставы. Больш за тое, увасабляючы яе пераважна ў станкавай пластыцы — добра прыдатнай для выставачных залаў, Аганаў абірае для яе адпаведную выразную форму. «Мае інспірацыі — раманска-гатычная скульптура, перакладаю яе на сучасную мову,» — кажа мастак, і яго словы выглядаюць ключом для разумення яго сённяшняга пластычнага стылю.



Сяргей Аганаў. Падарожжа

## Марыя Барысенка

Другая экспазіцыя, якая адчынілася ў музеі 13 лютага, прадстаўляе незвычайныя творы мастацкага тэкстылю, выробленыя выпускніцай, а сёння выкладчыцай Універсітэта Марыяй Барысенка.

Своеасаблівасць экспанатаў выяўляецца ўжо ў музычнай назве калекцыі, — «BLUES», хаця абазнаныя аматары сучаснага беларускага мастацкага працэсу адразу прыгадаюць два папярэднія праекты Марыі — «JAZZ» і «BEATLES forever!», і не здзівяцца чарговай музычнай ноце ў яе творчасці. Па-другое, большасць экспанаваных работ можна аднесці да своеасаблівага тыпу «аб'ёмнага тэкстылю». Рознафактурныя, шматколерныя і цікава падсветленыя кампазіцыі на выставе зусім не стоадсоткава прывязаныя да сцяны, як звычайныя габелены, і прастора, відавочна, абраная для іх як чарговае актыўнае вымярэнне.

Гэты канцэптуальны крок нядаўна прапагандавала на адпаведнай выставе «аб'ёмнага тэкстылю» (III Рэспубліканскім пленэры тэкстыльнай скульптуры «Снежнае лета» 28 ліпеня — 1 жніўня 2014 года) знаная мінская экспазіцыянерка Ларыса Фінкельштэйн, і як бачым, ініцыятыва знайшла працяг.

Безумоўна, варта было прысутнічаць на адкрыцці экспазіцыі 13 лютага, дзе незвычайна шматлікую публіку вітаў блюзавымі кампазіцыямі гурт Юрыя Несцярэнкі «White Night Blues», і, адпаведна, творы больш яскрава выяўлялі сябе ў музычнай атмасферы. Як знак застылай музыкі ў адну кампазіцыю (чарговы раз) Марыя ўключыла сапраўдны саксафон.

Дарэчы, каб пераканацца, што творчы стыль Марыі Барысенкі надзвычай шырокі, і дапускае густоўнае выкарыстанне прыёмаў традыцыйнага народнага ткацтва, варта завітаць на Някрасава, 3, дзе ў Цэнтры сучаснага мастацтва сёння яшчэ працягваецца выстава «7 + 2» — сямі мастачак ткацтва і двух аўтараў-керамістаў. Адна з удзельніц, як вы здагадаліся, Марыя Барысенка, экспануе там зусім адрозныя эстэтычна,але не менш цікавыя творы.

Матывуючы наведаць галерэю «Універсітэт культуры» на Кастрычніцкай плошчы, 1 перад 21 сакавіка — днём заканчэння выстаў, нагадаем чытачам, што Марыя Барысенка і Сяргей Аганаў ужо здабылі высокую — народную — ацэнку іх творчасці. У 2014 годзе, цягам дэманстрацыі прывязанай да правядзення чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску вялізнай выставы «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», дзе дэманстраваліся сотні работ лепшых сучасных майстроў, Марыя і Сяргей трапілі ў спіс 10 лепшых — па выніках грамадскага апытання.

Не будзе залішнім нагадаць гэты спіс: Аляксандр Некрашэвіч, Канстанцін Селіханаў, Канстанцін Вашчанка, Таццяна Гомза, Марыя Барысенка, Сяргей Сотнікаў, Павел Вайніцкі, Кацярына Сумарава, Андрэй Шчукін і Сяргей Аганаў.

Запрашаем да больш дэталёвага знаёмства з творчасцю двух з 10 «абраных» на Кастрычніцкую плошчу, 1 (Палац Рэспублікі).



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 231

Падпісана да друку 20. 02.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.